


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

4 МАЯ 2001г. № 18/4102 КОШТ 127 РУБ.


## ЗНІКНУЦЬ ПЧОЛЫ — ЗАГІНУЦЬ ЛЮДЗІ

**Павел ВЕРАБ'ЁЎ: "Пчала выжыла ў некалькіх планетарных катастрофах, выжыла, каб выхаваць — так як яна выхоўвае сваіх лічынак — новую чалавечую цывілізацыю... Знікнуць пчолы — загінуць людзі. Людзі сёння робяць вельмі шмат для таго, каб пчолы зніклі..."**


**5, 12, 15**


## МІЖ ВЕЧНАСЦЮ І ЖУРБОЙ...

**1 мая споўнілася 70 гадоў доктару навук, прафесару, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алегу ЛОЙКУ**


**4, 6—8**


## ГОД 1341. ЯК ТАЦЬ У НАЧЫ...

**Старонкі з аповесці "Альгердава дзіда" Вольгі ІПАТАВАЙ**


**8—9, 14—15**


## МІНСКІ ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР "ДЗЕ-Я?"

**Два гады без Міколы ТРУХАНА. Распавядае Людміла ЛЯВОНАВА**


**10—11**


## СКРУХА

**Апавяданне Васіля ЯКАВЕНКІ**


**13, 15**


### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на "ЛіМ" на другое паўгоддзе 2001 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **690** рублёў, на тры — **2070** рублёў, на паўгода — **4140** рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — **1800** рублёў, на тры — **5400** рублёў, на паўгода — **10800** рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**
**Ведамасны індэкс — 63857.**

*Бераг на дваіх.*

*Фота А. БІРЫЛКІ*



## КОЛА ДЗЁН

***Пачатак мая багаты на святы. Гэта і 1 мая, якое святкуецца не толькі ў многіх краінах былога Саюза, але і ва ўсім свеце. 5 мая — прафесійнае свята журналістаў. 9 мая — Дзень Перамогі. Словам, для тых, хто любіць святы, у маі ёсць што святкаваць. Ды і святы не абы-якія.***
***А тут і надвор'е спрыяе. Але многія свае выхадныя праводзяць на сотках. Як ніяк, але адзін добры вясновы дзень год корміць. Праўда, калі палічыць усё, што траціцца на тое, каб восенню гараджаніну на сваім лецішчы выбраць мяшкоў пяць бульбы, дык можна ўявіць, што тая бульба павінна быць залатая. І ўсё ж...***
***Са святамі!***

### ЗАЦВЯРДЖЭННЕ ТЫДНЯ

На нечарговай дванаццатай сесіі Гомельскага абласнога Савета дэпутатаў, у якой удзельнічаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, на парадку дня стаяла адно пытанне: аб старшыні аблвыканкама. На пасадзе старшыні Гомельскага аблвыканкама сесія аднадушна зацвердзіла мэра горада Гомеля Аляксандра Серафімавіча Якабсана. Віншуем! Да ўсяго нам, лімаўцам, імя Аляксандра Якабсана не чужое — нейкі час назад ён быў аўтарам нашай рубрыкі "Маналогі".

### ДАМОЎЛЕНАСЦЬ ТЫДНЯ

У Мінск прыязджаў намеснік губернатара Яраслаўскай вобласці Расійскай Федэрацыі Міхаіл Баравіцкі. Падчас сустрэчы з кіраўніцтвам нашай краіны ім была дасягнута дамоўленасць аб наладжванні зборачнай вытворчасці беларускіх трактароў на прадпрыемстве "Аграпрамтэхзабеспячэнне" ў Някрасаўскім раёне Яраслаўскай вобласці. На працягу двух месяцаў прадпрыемства, якое раней ажыццяўляла толькі тэхнічнае абслугоўванне беларускіх колавых трактароў, павінна падрыхтавацца да зборкі гэтай тэхнікі. Плануецца збіраць 30 трактароў штомесяц, якія будуць на трэць таннейшымі для расіян.

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

24 красавіка ў Еўрапейскім парламенце ў Брусэлі адкрылася фотавыстава "Дзеці Чарнобыля", якая прысвечана 15-й гадавіне аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У экспазіцыі выставы прадстаўлены каляровыя і чорна-белыя работы вядомага нашага фотамайстра, фотакарэспандэнта газеты "Звязда" Анатоля Клешчука. Дарэчы, творы фотамайстра неаднаразова друкаваліся і на старонках "ЛіМа"...

### ЧЭМПІЯНАТ ТЫДНЯ

Апошнімі гадамі зборная Беларусі па хакеі ў гульнях чэмпіянату свету, выступаючы сярод такіх каманд, як Канады, Расіі, Чэхіі, Фінляндыі, Швецыі, паказвала нядрэнныя вынікі. Сярод 16 моцнейшых каманд беларуская хлопцы займалі 8 і 9 месцы. І вось зноў 28 красавіка ў Германіі стартаваў чарговы чэмпіянат свету па хакеі ў элітнай групе. Падрыхтоўку да чэмпіянату наша зборная пачала ў пачатку красавіка ў Мінску, дзе ў двух таварыскіх матчах перамагла Ніжагародскае "Тарпеда". Затым двойчы выйграла ў нацыянальнай каманды Аўстрыі і адзін раз у Латвіі. Але, на жаль, гэты чэмпіянат свету нашы хлопцы пачалі не вельмі ўдала, прайграўшы ў першых матчах камандам Чэхіі і Швейцарыі. Мо нашы перамогі яшчэ наперадзе?..

### МАРШ ТЫДНЯ

З канца красавіка да сярэдзіны мая ў Дзяржаўным нацыянальным парку "Белавежская пушча" праходзіць Марш паркаў. Такога тыпу акцыі праводзяцца на тэрыторыі СНД з 1995 года. У час Маршу праходзяць урокі па прыродаахоўнай тэматыцы, экскурсіі, вікторыны і конкурсы дзіцячага малюнка на тэму "Свет запаведнай прыроды". Пабалей бы такіх маршаў!

### ЗВЕСТКІ ТЫДНЯ

Сярэдняя па краіне зарплата хоць марудна, але расце. Так, паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, за сакавік сярэдняя па краіне налічаная зарплата рабочых, служачых і калгаснікаў узрасла на 17,5 працэнта і дасягнула 101923 рублёў, або 76 долараў. Да 100 долараў не так ужо і далёка, але ж і не блізка...

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

У маі адбудзецца чарговы пераразлік пенсій, які будзе зроблены ў сувязі з тым, што ў сакавіку ў параўнанні са снежнем сярэдняя зарплата рабочых і служачых узрасла на 16,4 працэнта. Амаль на столькі ж павінна павялічыцца і сярэдняя пенсія. Калі ў красавіку яна складала 41667 рублёў, то ў маі будзе 48400 рублёў. Падвышка невялікая, але на сённяшні дзень для пенсіянераў прыемная. Хаця, як для каго...

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Нягледзячы на не вельмі спрыяльныя эканамічныя ўмовы для маштабнага будаўніцтва, у нашай краіне будаўніцтва не спыняецца. Асабліва гэта бачна па Мінску, дзе нядаўна закончана будаўніцтва такіх даўгабудаў, як Палац Рэспублікі і Чыгуначны вакзал. Завяршаюцца падрыхтоўчыя работы да маючай адбыцца рэканструкцыі гасцінічнага комплексу "Мінск". Будаўніцтва сучаснага чатырохзоркавага атэля будзе ажыццяўляць турэцкае акцыянернае таварыства "Эмсаш". Асноўныя рысы фасада вырашана захаваць, а ўсё астатняе будзе адбудавана нанова. У адпаведнасці з заходнімі стандартамі ў гасцініцы павялічыцца колькасць ліфтаў, з'явяцца па два рэстараны і кафэ ў кожным будынку, фірменная кандытарская, чатыры бары, казіно, банкетная зала і спартыўна-аздараўленчы комплекс. Словам, усё — як у Еўропе.

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу, у нашай краіне на сённяшні дзень налічваецца каля 2,5 млн. сямейных пар. Летась было заключана 62485 шлюбаў і скасавана 43512. Апошнія лічбы вельмі трывожныя, бо за імі стаяць не толькі лёсы людзей, а стан усяго грамадства нашай краіны. Паводле даных Мінстата, колькасць мужчын ад 16 да 70 гадоў, якія знаходзяцца ў шлюбе, пастаянна расце, колькасць жа жанчын, якія знаходзяцца ў шлюбе, павялічваецца толькі да 40 гадоў, а затым зніжаецца за кошт росту сярод іх разведзеных і ўдоў. У цэлым па краіне колькасць разведзеных жанчын у 1,8 раза больш, чым мужчын. Гэта тлумачыцца тым, што разведзеныя мужчыны часцей, чым разведзеныя жанчыны, уступаюць у паўторны шлюб. Такая вось статыстыка...

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Для тых, хто любіць падарожнічаць па свеце, і для дзелавых людзей з 18 мая плануецца адкрыццё новага пасажырскага авіярэйса з Мінска ў Парыж. Самалёты маркі "ТУ-154" будуць лятаць у Францыю два разы на тыдзень па панядзелках і пятніцах. Час палёту зойме тры гадзіны, а кошт білета складзе ад 250 долараў. Нармальна....

ПАДЗЕІ

# Свята прэсы




Штогод, на пачатку мая, прыгожы і ўтульны Палац мастацтва прадастаўляе свае выставачныя плошчы журналістам. У пяты раз тут адчынілася выстава "Прэса ў Беларусі-2001", у якой прыняла ўдзел большасць выданняў, якія выходзяць на Беларусі, а таксама — прадстаўнікі расійскай прэсы.



Такія выставы — не толькі своеасаблівы агляд апошніх дасягненняў дзяржаўных і недзяржаўных газет і часопісаў, а і магчымасць сустрэцца з калегамі, правесці ўласную рэкламную кампанію.

Зрэшты, як зазначыў адкрываючы свята прэсы старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны, падобныя выставы — значная падзея ў культурным і грамадскім жыцці краіны.

Аб жаданні супрацоўнічаць з беларускімі журналістамі заявіў у вітальным слове намеснік міністра па справах друку, тэлерадыёвяшчання і сродкаў масавай камунікацыі Расійскай Федэрацыі Валерый Сіражэнка.

Асобным стэндам прадстаўлены і літаратурна-мастацкія выданні. На гэты раз "куточак" "Полымя", "Нёмана", "Крыніцы", "Алесі", "Всемирной литературы", нашага "ЛіМа" атрымаўся густоўным, змястоўным і прыгожым, звярнуў на сябе ўвагу наведвальнікаў.

Вядома, чытача "заваёўваюць" не толькі, ды і не столькі на выставах. Але хацелася б, каб і калегі, і наведвальнікі з увагай і павагай паставіліся да тых выданняў, якія нясуць мастацкае слова людзям, якія служаць трыбунай для аматараў і прыхільнікаў высокай духоўнасці.

**Н. К.**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Працягваюць паступаць справаздачы з абласных аддзяленняў СБП. Прынамсі, як паведамляе сакратар Віцебскага абласнога аддзялення Франц Сіўко, зараз у Прыдзвінскім краі жывуць і працуюць 27 сяброў творчага саюза.

За міжз'ездаўскі перыяд у арганізацыі зроблена нямала. Выдадзены альманахі "Дзвіна", "Наддзвінне", "Далягляды", падрыхтаваны і рыхтуюцца да друку бібліяграфічныя даведнікі "Пісьменнікі Віцебшчыны", з поспехам прайшлі буйнамаштабныя акцыі "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай", прысвечаныя 160-годдзю Ф. Багушэвіча", абласное свята паэзіі ў Паставах, прымеркаванае да 100-годдзя з дня нараджэння У. Дубоўкі, мерапрыемствы па ўшанаванні памяці М. Барэйшы ў Верхнядзвінскім раёне, П. Сушко ў Мёрах, П. Броўкі — ва Ушачах, У. Корбана ў пасёлку Барань, Я. Журбы — у Чашніках.

Сумесна з літсуполкай "Сёмая грань" пры Віцебскім універсітэце праведзены абласны конкурс паэзіі, праведзены юбілейныя вечарыны П. Ламана, У. Папковіча, А. Канапелькі, Т. Ляшонка, Л. Калодзежнага, А. Нафрановіча, М. Баравік.

Наладжана сувязь з абласной студыяй тэлебачання, літаратурным музеем. Праведзены цыкл перадач і прэзентацый у літаратурным музеі.

●

У справаздачы сакратара Гродзенскага аддзялення Д. Бічэль прыводзіцца нямала цікавых звестак і фактаў аб літаратарах Гродзеншчыны, якія выдалі шэраг цікавых кніг, актыўна выступаюць у перыядычным друку.

Частыя госці мясцовыя пісьменнікі ў школах, сярэдніх навучальных установах, дзіцячых дамах. Сярод нядаўніх акцый — велікоднае спатканне сумесна з хорам "Бацькаўшчына" ў дзіцячым доме па вул. Гая ў абласным цэнтры, дзе творцы падарылі юным выхаванцам кнігі, чыталі вершы.

З поспехам прайшла ў Гродзенскім універсітэце вечарына, прысвечаная 90-годдзю Ларысы Геніюш, адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя 70-годдзю У. Караткевіча, 80-годдзю А. Карпюка, свята паэзіі, літаратурныя вечары ў Слоніме да гадавіны з дня смерці А. Іверса.

●

115-я гадавіна з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Змітрака Бядулі стала нагодай сустрэчы ў Пасольстве Рэспублікі Казахстан у Беларусі. Супрацоўнікі пасольства на чале з паслом У. Алесіным распавялі аб тым, як грамадскасць краіны ўшаноўвае памяць беларускага пісьменніка, які памёр на казахстанскай зямлі, выказалі жаданне пісьменнікаў краіны мець цесныя стасункі з Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

З беларускага боку ў сустрэчы ўдзельнічалі намеснікі старшыні СБП Навум Гальпяровіч, Уладзіслаў Мачульскі, галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" Алесь Пісьмянкоў. Яны выказалі ўдзячнасць паслу за ўвагу і павагу да нашага земляка, гатоўнасць да наладжвання цеснага і плённага супрацоўніцтва. На завяршэнне прадстаўнікі нашай творчай арганізацыі паднеслі казахстанскім сябрам збор сачыненняў З. Бядулі ў пяці тамах.

**Н. К.**

●

Адбыўся чарговы сход Магілёўскага аддзялення СБП.

У парадку дня — пытанне "Аб удзеле пісьменнікаў Магілёўшчыны ў рабоце 13-га з'езда пісьменнікаў Беларусі".

Паступіла прапанова Івана Аношкіна прасіць камісію па падрыхтоўцы 13-га з'езда пісьменнікаў пабудаваць работу вышэйшага пісьменніцкага форуму такім чынам, каб выбранне старшыні творчага саюза 28 мая 2001 года прайшло адразу пасля справаздачы в. а. старшыні Саюза пісьменнікаў Вольгі Іпатавай.

Абмеркаванне прапановы зрабіла відавочным: выбары старшыні творчага саюза лепей праводзіць менавіта пасля справаздачнага даклада, з якім павінна выступіць в. а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, бо, як сведчыць вопыт папярэдніх з'ездаў, прысутнасць дэлегатаў больш за ўсё выклікае гэта справаздача. Будзе магчымасць пасля яе забяспечыць удзел у прыняцці надзвычай актуальнага рашэння для пісьменніцкай сябрыны найбольшай колькасці дэлегатаў з'езда. А ўзважанае і выверанае рашэнне большасці пісьменнікаў — гарантыя далейшай плённай працы творчага саюза.

Думку Івана Аношкіна ўхвалілі і падтрымалі Уладзімір Дуктаў, Іван Пехцераў, Васіль Карпечанка, Яраслаў Клімуць, Васіль Рагаўцоў, Мікола Лук'янаў, Віктар Кунцэвіч.

Вырашана прапанаваць камісіі па падрыхтоўцы 13-га з'езда пісьменнікаў Беларусі зрабіць захады, каб у парадку работы з'езда выбранне старшыні творчага саюза адбылося адразу пасля справаздачнага даклада, з якім павінна выступіць в. а. старшыні СБП Вольга Іпатава.

**У. ДУКТАЎ**

## ЛІНІЯ ЖЫЦЦЯ

Так званы чалавек разумны з'явіўся недзе каля 40 тысяч год таму назад. Ад поўнага зліцця з прыродай, бясспрэчнага пакланення яе сілам і законам ён эвалюцыяніраваў да тэзісаў аб тым, што чалавек, гэта вяршыня прыроды, а прырода ніякі "не храм, а майстэрня, і чалавек у ёй работнік". Агрэсіўнае пакаленне матэрыялістаў пад прыкрыццем агульначалавечага шчасця стварыла драпежнае спажывецкае грамадства.

У свеце ёсць шмат прыемных, спакуслівых рэчаў. Але па зразумелых прычынах на ўсіх іх не хапае, ды і хапіць не можа. А хочацца. Няўстрымная прагнасць да спажывання прыемнасцей стала дамінантай гістарычнага развіцця чалавечага грамадства і галоўнай рухаючай сілай усіх канфліктаў.

Тэхнічныя ўдасканальванні на шляху здабывання матэрыяльных даброт прывялі да глабальнага канфлікту: канфлікту паміж чалавекам і прыродай.

# Знікнуць пчолы — загінуць людзі

## ЭКАЛАГІЧНЫЯ, ФІЗІЯЛАГІЧНЫЯ, ПСІХАСАЦЫЯЛЬНЫЯ АСПЕКТЫ

Чалавек — прадукт прыроднага ландшафту, і сам знешнім выглядам і стэрэатыпам паводзін адпавядаў ландшафту. Сёння спрабуе самастойна вырашыць, які ландшафт умясціць у сябе, а з якога зрабіць прамысловую зону. Прамысловая зона, тэхнагенны асяродак — гэтыя паняцці так трывала ўвайшлі ў наша жыццё, што мы ўжо і не задумваемся аб іх чалавекаператваральным уздзеянні. Парушыўшы натуральную плынь працэсаў у жывой прыродзе, людзі гвалтоўна ў яе ўварваліся. Гвалтаванне прыроды, якая вызначае паводзіны чалавека, выклікае рэакцыю помсты. "Не смейце нават словам пакрыўдзіць Маці-прыроду!" — забыццё гэтага духоўнага завяшчання славян-язычнікаў ужо сёння нам дорага абыходзіцца, а абыдзецца яшчэ даражэй.

Помніце, выгнанню з раю і асуджэнню на здабыванне хлеба надзённага ў поце твару папярэднічала паспытанне забароненага плода. З таго часу, калі Творца пайшоў на эксперымент і прапанаваў чалавеку свабодны выбар у пазнанні дабра і зла, Д'ябал атрымаў вялікую сілу. Вялікую настолькі, што светаўладкаванне і сам чалавек перасталі адпавядаць Боскай Задуме. Свет напоўніўся злобай, нянавісцю, зайздрасцю, драпежніцтвам, хваробамі, пакутамі. Жорсткаму вынішчэнню падвяргаецца навакольнае асяроддзе. Знішчэнне лясоў, эрозія глебы, скарачэнне запасаў падземных вод, забруджванне падземных рэк, разбурэнне азонавага слою, атручэнне паветранага басейна, зніжэнне ўрадлівасці глебы, наступленне пустынь — усё гэта сёння рэальнасць. І рэальнасць гэта можа раптоўна абарвацца ў выніку якой-небудзь тэхналагічнай катастрофы. У поўны рост паўстае праблема выжывання сусветнай супольнасці. Наступіла тая мяжа, за якой ужо недапушчальна спавядаць ідэалогію спажывання, саперніцтва, драпежнага стаўлення да рэсурсаў. Ідэалогія разбурэння мае вострую патрэбу ў замене на ідэалогію выжывання. І такой ідэалогіяй можа і павінна стаць ідэя гарманізацыі адносін чалавека і прыроды.

Ці ёсць ратунак, ці можна прывесці навакольную прыроду ў адпаведнасць Боскай Задуме? Так, можна, але для гэтага нам трэба саміх сябе прывесці ў адпаведнасць Боскай Задуме. Якім чынам?

Сёння ўжо добра відно, што з Боскага эксперыменту свабоды выбару дабра і зла атрымалася суцэльнае расчараванне. Д'ябал парушыў парадак рэчаў, вызначаных Творцам. Адзінае ацалела ад яго тленнага ўплыву, устаяла ў спакусах і захавала першапачатковую праграму і прызначэнне існавання. Гэта адзінае — пчала. Творца абярог пчалу ад уздзеяння Д'ябла дзеля таго, каб чалавек, слабы ў свядомым волевыяўленні, заўсёды меў перад вачыма прыклад адпаведнасці задуме. У гэтым шанц на выратаванне, на выкананне чалавецтвам задач Сусветнай эвалюцыі.

Унікальнасць, выключнасць пчолы была заўважана даўно. Нездарма яна шматразова ўпамінаецца ў кнізе кніг — Бібліі. Сёння, калі пагроза знішчэння чалавецтва недалёка да ўвасаблення, роля і значэнне пчалы набывае асаблівае гучанне. "Знікнуць пчолы — згіне людства" — гэты лозунг на галоўным корпусе інстытута пчалярства імя П. Пракаповіча ў Кіеве не плод рамантычнай фантазіі, а навуковы вывад. Нічым іншым, як прызначанай Богам выратавальніцкай місіяй, нельга вытлумачыць легендарную таямнічасць гэтага насякомага.

Пчолы — адна з самых вялікіх загадак сярод усіх жывых істот, якія насяляюць Зямлю. Яны з'явіліся на свет нашмат раней чалавека. Больш як 80 мільёнаў гадоў налічвае зямное існаванне пчалы. Палеантолагі ўстанавілі, што сённяшнія пчолы прадстаўлены ў тым жа выглядзе, у якім яны знаходзіліся 40 мільёнаў гадоў назад. Такая ўстойлівасць віду не можа не здзіўляць і не выклікаць несупыннага навуковага інтарэсу. Праблема дэградацыі, біялагічных мутацый розных відаў жывёл і, у першую чаргу, чалавека набывае зусім рэальную пагрозу існаванню сённяшняй цывілізацыі.

Наўрад ці хто аспрэчыць: сацыяльныя, фізічныя, духоўна-псіхічныя кампаненты існавання роду чалавечага не тое, што вельмі далёкія ад свайго ідэальнага стану, а, мякка кажучы, знаходзяцца ў вельмі глыбокім крызісе. Колькі сацыяльных узрушэнняў, фізічных і псіхічных рэфармацый! Колькі кар'ер і індывідуальных дабрабытаў нагадавалася на пошуках шляхоў выратавання! Як ні гаруй, а факт застаецца фактам: многія нават самыя выдатныя розумы невылечна хворыя аднабаковасцю, фрагментарнасцю светаўспрымання, абмежаванасцю. Усепранікальная шматфактарнасць — светлая мара пакутнікаў за аднаўленне руху сусветных падзей у адпаведнасці з Боскай задумай.

Між тым, прыклад перад вачыма — гэта арганізацыя жыцця ў пчалінай сям'і. Калі б людзі хаця б на дзесяць працэнтаў маглі пераняць прынцыпы ўзаемаадносін у пчалінай сям'і, то ў выніку мы б мелі сацыяльна, фізічна і маральна здаровае грамадства. І чалавецтва мае прыклады, калі людзі з абагаўленнем ставіліся да пчалы і мелі выдатны вынік.

1973 год. Нобелеўская прэмія (вышэйшая ўзнагарода за навуковыя дасягненні) па фізіялогіі і медыцыне ўручаецца тром вучоным за работы ў галіне эталогіі (навука аб паводзінах жывёл), а менавіта, згодна фармулёўцы Нобелеўскага камітэта "за адкрыцці, звязаныя са стварэннем і выкарыстаннем на практыцы мадэляў індывідуальных і групавых паводзін". Нобелеўскімі лаўрэатамі сталі: 87-гадовы аўстрыйскі заолаг Карл фон Фрыш, 66-гадовы галандскі заапсіхолаг і эмолаг Ніколас Цінберген і 70-гадовы аўстрыйскі біёлаг, урач і філосаф Конрад Лорэнц. На падсвядомае адчуванне, шматлікія легенды і паданні аб пчаліных тайнах пралілася кропля навуковага святла. Сувязь паміж пчалой і чалавекам аказалася нашмат глыбей і разнастайней, чым меркавалася дагэтуль. Выявілася: чалавек, непараўнальна лепш арганізаваны і адораны, чым астатнія істоты, як з функцыянальнага, так і з сацыяльнага пунктаў гледжання паўтарае пэўныя схемы, адзначаныя вучонымі ў пчол. У прамове пры віншаванні лаўрэатаў было падкрэслена, што работы гэтых вучоных могуць мець важнае значэнне для ацэнкі "ўздзеяння анамальных псіхасацыяльных сітуацый на індывідуумаў, якія "могуць выклікаць не толькі адхіленні ў паводзінах, але і сур'ёзныя саматычныя захворванні". Асаблівую каштоўнасць працы згаданых вучоных уяўляюць у галіне сацыяльнай, псіхасаматычнай медыцыны і псіхіятрыі. У прыватнасці, практычны інтарэс уяўляюць даследаванні сувязі асаблівасцяў паводзін індывідуума з пэўнымі захворваннямі.

А зараз разгледзім больш канкрэтна ролю пчалы ў выжыванні сённяшняй цывілізацыі.

Першы аспект — экалагічны. Жыццё на планеце не можа існаваць без зялёнага покрыва. Захаванне ж відавай разнастайнасці расліннага свету без пчалы немагчыма.

Пчала з'яўляецца тым вяршынным звяном, якое гарманізуе жывёльна-раслінную супольнасць планеты, з'яўляецца індыкатарам спрыяльнасці стану экасістэмы. Большасць раслін маюць спецыяльныя прыстасаванні, якія прыцягваюць да сябе пчалу. Толькі пасля візіту гэтай маленькай госці расліна можа даць паўнаважны плод, здольны прадуцыраваць здаровае патомства. На ўсіх поўных падставах пчала лічыцца захавальніцай лесу. Калі ўзяць да ўвагі так званую харчовую бяспеку чалавецтва, дык мяркуецца, што 30 працэнтаў усіх прадуктаў харчавання ў свеце атрымліваецца пры дапамозе пчол. Ураджайнасць жа сельскагаспадарчых культур пасля пчолаапылення павышаецца на 30—60 працэнтаў.

Нашы далёкія продкі ведалі і разумелі ролю пчалы. У "Рускай Праўдзе" Яраслава Мудрага некалькі артыкулаў было прысвечана бортніцтву.

Велізарнейшай разнастайнасцю вышэйшых кветкавых раслін мы абавязаны насякомым — апыляльнікам, перш за ўсё пчолам. Пастаянная іх узаемасувязь са светам кветкавых, бясспрэчна, прыводзіла ў ходзе эвалюцыі да захавання, удасканальвання і з'яўлення новых форм. У гэтым гістарычная сутнасць меданосных пчол у прыродзе, іх біясферныя задачы. Не дарэмна пчол называюць крылатымі селекцыянерамі. Неацэнная іх дапамога ва ўдасканальванні гатункаў пладовых, ягадных, маслічных, крупяных сельскагаспадарчых культур і ў атрыманні высокаўраджайных гібрыдаў.

Аспект фізіялачны. Пра культуру харчавання сучаснага чалавека напісана і гаворыцца шмат. З пункту гледжання сучасных навуковых поглядаў на фізіялагічныя магчымасці арганізма і агульнапрынятыя нормы і патрабаванні да збалансаванага харчавання і дыеталогіі дастаткова шмат прапаноўваецца методык і рэкамендацый рознага накірунку, прычым часам прама супрацьлеглага зместу — ад увядзення элементаў галадання, умеранасці ва ўжыванні ежы да поўнага адмаўлення розных дыет, якія арыентуюць усё падрад, што хочацца арганізму.

"Ежа павінна быць лекамі, а лекі — ежай". Гэта, безумоўна, справядлівая формула здароўя стала расхожай фразай. Аднак на практыцы амаль не прапаноўваюцца метады, якія б абапіраліся на веды чалавечага эвалюцыйнага развіцця ў адзінай прыроднай сістэме, матэрыі праяўленай і матэрыі непраяўленай — духоўнай, г. зн., якія разглядаюць чалавека як вышэйшую арганізаваную матэрыяльную самарэгулюемую біялагічную сістэму, надзеленую розумам. Менавіта розум прыводзіць у гарманічнае адзінства Дух і Цела.

Сучаснай фізіялогіяй і біялогіяй дэталёва вывучаны механізмы абмену рэчываў. Асновапачатковыя, непарушныя працэсы ў абмене рэчываў арганізма чалавека, сучасныя фізіялогія і дыеталогія павінны не раздзяляць, а аб'ядноўваць у адзінае паняцце аб складанай біяэнергетычнай структуры чалавека. Тады становіцца зразумелым, што страўнік — гэта рэактар, і што мы ў яго накладзём, тое і атрымаем. Пакладзём штучныя (эрзац) харчовыя кампазіцыі, зменім энергетычную аснову клеткі, атрымаем рост клетак, неўласцівых абменнаму працэсу тканак, парушым жыццезабеспячэнне, і гэта прывядзе да хвароб. І наадварот — паўнацэнныя, жывыя прадукты створаць гармонію ўнутрыклетачных плоцкі-духоўных працэсаў.

Вельмі яскравым прыкладам разбуральнага ўздзеяння на арганізм з'яўляецца цукар. Гэта складаная кампазіцыя поліцукраў — на 99,9 працэнта сахароза. Такога рэчыва ў прыродзе не існуе. Каб расшчапіць і засвоіць сахарозу, арганізм затрачвае запашаныя ў рэзерве рэчывы. Але арганізму гэты рэзерв таксама патрэбны, таму адбываюцца перакосы ў размеркаванні тых або іншых рэчываў, якія прымаюць удзел у працэсах абмену і сінтэзу. Адбываюцца пэўныя збоі ў рабоце арганізма. Пчолы, якія ўдзельнічалі ў перапрацоўцы цукровага сіропу, жывуць нашмат менш, чым тыя, якія ў гэтай рабоце не ўдзельнічалі.

Такім чынам, працэс забеспячэння фізіялагічнага існавання чалавечага арганізма складаецца з уводу энергетычных рэчываў (тлушчы, бялкі, вугляводы) і далейшай рэгуляцыі іх размеркавання па тканках. Ролю такіх рэгулятараў-размеркавальнікаў адыгрываюць мікраэлементы ў сукупнасці з вітамінамі і амінакіслотамі. Арганізм чалавека атрымлівае мікраэлементы з прадуктаў харчавання і вады. Вядома, што ў арганізме чалавека мікраэлементы назапашваюцца выбіральна ў розных органах: цынк — пераважна ў палавых залозах, гіпофізе, падстраўнікавай залозе; ёд — у шчытападобнай залозе; медзь — у печані і косным мозгу; кадмій і малібдэн — у нырках; нікель — у падстраўнікавай залозе; ліцій — у лёгкіх; стронцый — у касцях; хром, марганец — у гіпофезе.

Біялагічная актыўнасць многіх мікраэлементаў звязана з тым, што яны ўступаюць ва ўзаемадзеянне з ферментамі і вітамінамі.

Шэраг захворванняў печані, гіпертанічная хвароба, глаукома прыводзяць да парушэнняў абмену кобальту, якія ўзмоцнена выводзіцца праз кішэчнік і мочавыводзячыя шляхі.

З гэтых прыкладаў мы бачым, што наяўнасць мікраэлементаў, вітамінаў, амінакіслот, ферментаў у арганізме чалавека знаходзіцца ў строгіх суадносінах адно да другога. Любое парушэнне гэтых фізіялагічных суадносін выклікае захворванне. Відавочна і тое, што такое мноства ўзаемадзеянняў і ўзаемапрапорцый падтрымліваць штучна практычна немагчыма. Перадазіроўка аднаго вітаміна, напрыклад, выкліча нейтралізацыю дзеяння другога. І так па ўсім ланцугу.

Мы мусім пагадзіцца, што пасыл аб тым, што чалавек — гэта самарэгулюемая біялагічная сістэма, надзеленая розумам, верны. І для гэтай самарэгулюемай сістэмы Прырода прадугледзела гэткую ж універсальную ежу. Гэта мёд і другія прадукты пчалярства.

Мёд — гэта незаменны прадукт для аздараўлення чалавека, бо ён утрымлівае да 455 розных жыццёва неабходных для чалавека рэчываў і злучэнняў. І самае галоўнае: хімічны састаў мёду вельмі блізкі па саставе да крыві чалавека. Мікраэлементы ў мёдзе знаходзяцца ў той жа канцэнтрацыі, што і ў крыві чалавека. Людзі даўно заўважылі і з поспехам выкарыстоўваюць фармакалагічныя, імунабіялагічныя, антыбактэрыяльныя, супрацьмікробныя, кансервуючыя, антыалергічныя ўласцівасці мёду.

Устаноўлены цікавы факт. Мёд у вострым перыядзе чарнобыльскай аварыі ў 75 разоў быў менш заражаны радыенуклідамі, чым перга і прапаліс. Рабочыя пчолы ачышчаліся ад радыенуклідаў.

Вельмі высокая энергетычная каштоўнасць мёду, як прадукту харчавання. 100 грамаў мёду ўтрымлівае 308 кілакалорый, ялавічына — 164, мяса трусоў — 199, свініна — 355 кілакалорый. Арганізм чалавека пароэнаму засвойвае харчовыя прадукты — мяса — на 95%, яйкі — 95,5%, чорны хлеб — 85%, белы хлеб — 96%, малако — 91%, бульба — 89%, а пчаліны мёд засвойваецца поўнасцю, без астачы, на ўсе 100%.

Другі ўнікальны прадукт пчалярства — матачнае малачко. Пчаляроў з часоў Арыстоцеля цікавіла пытанне, чаму пчаліная матка, якая выйшла з такога ж яйка, як і ўсе пчолы, амаль у два разы даўжэй і цяжэй рабочай пчалы, у суткі можа адкладваць яек столькі, колькі важыць сама і жыве каля 6 гадоў, у той час калі рабочыя пчолы толькі 30-40 дзён.

Разгадаць тайну дапамаглі поспехі сучаснай хіміі. Матачнае малачко — вельмі пажыўнае рэчыва. Яно багатае бялкамі, тлушчамі, вітамінамі, мікраэлементамі, ферментамі. У матачным малачцэ выяўлены гармон, які актывізуе функцыі палавых залоз, нуклеінавыя кіслоты РНК і ДНК. Матачнае малачко ўтрымлівае 15 мікраэлементаў.

Пчолы кормяць лічынак матачным малачком на працягу трох сутак. За гэты час іх вага павялічваецца у 250 разоў, за шэсць дзён вага лічынкі ўзрастае ў 1500 разоў. Матка, якая спажывае толькі матачнае малачко, дасягае спеласці на 5 дзён раней рабочых пчол. На аснове гэтых фактаў матачнае малачко можна лічыць проста цудадзейным. Рэчывы, якія ўтрымліваюцца ў гэтым прадукце, з'яўляюцца прычынай розніцы ў развіцці, працягласці жыцця і пладавітасці паміж маткай і рабочымі пчоламі. У біялогіі і медыцыне няма іншага рэчыва, якое аказвала б падобныя эфекты на развіццё, працягласць жыцця і працягванне роду.

Прапаліс — прадукт пчалярства расліннага паходжання. Гэта настолькі складанае, з вельмі шырокім спектрам дзеяння рэчыва, што да гэтага часу не ўсе хімічныя злучэнні, якія ў ім знаходзяцца, ідэнтыфікаваны. Поўная хімічная формула прапалісу пакуль не разгадана. Існуюць розныя пункты гледжання на паходжанне тэрміна "прапаліс". Згодна адной версіі, назва складаецца з двух грэчаскіх слоў: "про" (у значэнні — перад, уперадзе), і "поліс" (горад), што азначае сістэму абароны, умацаванне пчоламі свайго горада — вулля. Па другой версіі, гэты тэрмін пайшоў ад лацінскага слова "прополеспо" (задзелваць, замазваць, гладзіць, шліфаваць). Трэба сказаць, што ў жыцці пчалінай сям'і тлумачэнне абодвух гэтых тэрмінаў знаходзяць пацвярджэнне. Функцыянальнае прызначэнне прапалісу па-першае сапраўды літаральна замазваць шчыліны, па-другое — знішчаць усе хваробатворныя бактэрыі, вірусы, грыбкі, мікраарганізмы, якія могуць пранікнуць у вулей. Дэзінфіцыруючая, бактэрыцыдная, анестэзіруючыя, імунастымулюючыя ўласцівасці прапалісу на самай справе не маюць аналагаў. Праведзеныя даследаванні паказалі: бактэрыцыднае ўздзеянне прапалісу пераўзыходзіць у шэрагу выпадкаў уздзеянне розных відаў антыбіётыкаў. Прычым, многія ўзбуджальнікі хвароб маюць уласцівасць прыстасоўвацца да антыбіётыкаў, а вось прыстасавацца да прапалісу ім не выпадае. Да таго ж, антыбіётыкі разбураюць імунную сістэму, прапаліс — стымулюе.





(Працяг на стар. 12, 15)

нік стварае маляўнічы пейзаж, дзе жывуць загадкавыя казачныя жывёлы, што выступаюць сімвалам магутнасці беларускай нацыі.

***Ноч. Зіма. Завейна. Снежна.***
***Ані зорачкі ўгары.***
***У калматай Белавежы***
***Сняць пра Афрыку зубры.***

Паэт верыць у гуючую і стваральную ролю першага промня пры пачатках жыцця, калі промень будзе поўны светлай паэзіі. Услед за А. Лойкам перажываем, каб чырыканне верабейчыка не перашкодзіла сну маленькай дзяўчынкі ("Верабейчык"), каб навальнічны дождж напаіў лесавыя расліны ("Пасля навальніцы"), або каб удалай была першая рыбалка Тоні ("Вельмі ж любіць Тоню дзед...").

"Слабасць" паэта, калі прамая паэтызацыя прадметаў і з'яў жыцця часам пераходзіць у ідылічнае замілаванне светам і людзьмі якраз спрыяе выразнаму абліччу яго пейзажнай і інтымнай паэзіі. Каханне — адно з тых пачуццяў, якое найбольш прагне ідэальнага. Любоўная лірыка Алега Лойкі — цнатлівая, задушэўная. У ёй адчуваецца знітаванасць з фальклорнымі асновамі, з традыцыямі класічнай нацыянальнай паэзіі. Найперш, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча. Узорам лірыкі кахання можа заслужана лічыцца верш "У жыце каласістым сцежка гіне...":

***У жыце каласістым сцежка гіне,***
***На ёй хусцінка васількам мільгне,***
***А за дзяўчынай хтось, як за багіняй,***
***Ідзе***
***і каласы к сабе***
***хіне...***
***Любуюся... А як жа быць іначай?..***
***Нішто яе, высокай, не трывож!..***
***За ёй пайшоў бы па вуглях гарачых,***
***Па айсбергах ільдзістых — басанож!..***

Лірычны герой А. Лойкі — нястомны ў слоўных доказах вернасці каханай, у захапленні яе вонкавай і душэўнай прыгажосцю. Ён — малады ў пачуццях, поўны імклівасці ў апяванні вартасцяў суб'екта кахання. Лепшыя творы лірыкі кахання гавораць за гэта ("На мяне паглядаць ты пакінь!..", "Лотаць", "Заўсёды трошкі таямніцай", "Любоў прыходзіць не ў семнаццаць", "Каторы ўжо раз закаханы"). Разам з тым урачыста-падвышаны тон інтымнай лірыкі Алега Лойкі калі-нікалі вядзе да спрошчанасці ў перадачы аднаго з самых глыбокіх чалавечых пачуццяў. Так, напрыклад, прысягаючы на вернасць і пастаянства каханай, паэт нібы забываецца, што пачуццё любові не бывае статычным, што яно захоўвае ісціну спасціжэння складанай простасці. Як адбываецца ў вершы "Калі б табе я здрадзіў раз...":

***Калі б табе я здрадзіў раз,***
***Я б здрадзіў песням, што пяю,***
***Барам, палям, лугам, азёрам,***
***Зямлі і небу, сонцу, зорам, —***
***Чаму б, каму б я ўжо не здрадзіў,***
***Калі б табе я здрадзіў раз,***
***І сам не ведаю,***
***І рады,***
***Што ў сэрцы ані кроплі здрады!..***

Чалавек у творчасці паэта жыве ў гармоніі і ў добрым паразуменні з акаляючым асяроддзем. Алег Лойка натхнёна апявае прыроду. Свет прыроды заўсёдна прысутнічае ў яго паэзіі, у жыцці герояў. Адзін з лепшых вершаў — "Душна. Вечар позні...", у якім адбываецца гранічнае ўзаемапранікненне светаў чалавека і прыроды:

***Душна. Вечар позні.***
***Стома — ледзь жывы.***
***Усё шукаю позіркам***
***Дрэва і травы.***
***З імі пупавінаю***
***Звязаны, душуся, —***


Ля помніка М. Багдановічу, курорт Місхор, 1991 г.

***Перарэж — загіну я,***
***А не нараджуся.***

Экалагічная тэматыка прысутнічае фактычна ва ўсіх паэтычных кнігах пісьменніка. Пейзажная лірыка аздабляе, натуральна ўжываецца, пераліваецца адценнямі вясёлкі ў яго зборніках "Задуменныя пралескі" (1961), "Блакітнае азерца" (1965), "Каб не плакалі кані" (1967), "Дзівасіл" (1969), "Грайна" (1986).

Вельмі арганічнымі бачацца ў творчасці А. Лойкі раманы-эсэ пра Янку Купалу (1982) і Ф. Скарыну (1989), якія выйшлі ў папулярнай серыі "ЖЗЛ" — першыя раманы пра беларусаў у гэтай серыі. Маштаб творчасці Я. Купалы яскрава паўстае для чытача са старонак кнігі "Як агонь, як вада... Раман-эсэ пра Янку Купалу", дзякуючы ў многім таму, што аўтар глядзіць вачыма паэта, інтуітыўна набліжаючыся да паэтычнай разгадкі творчасці класіка.

У рамане "Францыск Скарына, або сонца маладзіковае" А. Лойка пераважна выявіў сябе, як паэт-даследчык, гісторык-аналітык. "У птушак заўсёды застаецца недаспяванае, у дрэваў — недашумленае, у чалавека — недагаворанае", — зазначае пісьменнік А. Лойка. Падаючы ў мастацкіх вобразах загадку жыцця і творчасці тытана Адраджэння, раманіст знітоўвае кнігу пафасам любові і служэння Бацькаўшчыны. Скарына — паэт, які сонечныя промні асветы, адукацыі павароўвае ў бок любай Радзімы. У 1990 г. для дзяцей і юнацтва выйшла аповесць "Скарына на Градчанах". Найбольш цікавы перыяд жыцця першадрукара — пражскі, з'ўленне ў Празе Біблії аўтар аповесці падае вачыма дзяцей вялікага першаасветніка Беларусі.

Свет героя творчасці Алега Лойкі — самы шырокі ў геаграфічных адносінах. Пачынаецца ён ад рэчак дзяцінства Шчары і Зяльвянкі, знаходзіць працяг на берагах Сены і ў Парыжы, Ганга ў Індыі. Шмат разоў разам з героем Алег Лойка наведваў Польшчу, Югаславію, Фінляндыю, Тайланд... Але вершы, нататкі з паездак пісьменніка за мяжу менш за ўсё можна назваць падарожнымі, турысцкімі. "Перамовы" з вялікім светам у паэта Латкі пачынаюцца з бацькоўскага парога, з сустрэчы з маці ("Маці", "Дарог бясконцае суседства"...) Услед за аўтарам пагаджаешся "ўсё-такі здарова гэта, прачуцца проста між лета, з-пад сосна́ў, з-пад ціхіх плёскаў адчуць, што вось ён — космас"... Але Лойка — адданы сын Беларусі. Менавіта вачыма адукаванага, сарамлівага, сціплага сялянскага сына глядзіць ён на замежжа, бачыць там у першую чаргу тое, што збліжае людзей іншай побытавай і духоўнай культуры ("Бугенвіль", "Дэлі. Чырвоны форт. У пакоі з люстэркам", "Грузія", "Гусляр у Парыжы", "Культ жанчыны"). Мастацкія поспехі паэта тлумачацца адсутнасцю сацыяльна-ідэалагічных падыходаў у адлюстраванні. Свядома пазбягае А. Лойка ў лепшых вершах этнаграфіі і экзотыкі замежнага жыцця. Героі яго твораў жывуць праблемамі вечнасці: дабра і зла, шчасця і няшчасця, кахання і нянавісці.

Урачыста-прыўзняты тон А. Лойкі ў цыкле "Адваражанае Палессе" якраз і не спрыяе сапраўднаму мастацка-паэтычнаму адкрыццю" гэтага беларускага краю. Палессе становіцца як бы своеасаблівым замежжам з пэўнымі цяжкасцямі для мастацкага спасціжэння. Лойка піша оду Палессю апісальным шляхам: Прыпяць — шырокая, сінія азёры, мудрыя палешукі, сітнякі, чарот, аер, наўкола вада, туманы. Паэт свядома ўхіляецца ад наватарства. Захоплены незвычайнасцю палескага краю, уражаны раней не бачаным, пісьменнік у многім не здолеў перадаць убачанае і адчутае паэтычным майстэрствам. Хаця як удала паэт знайшоў вобразныя сродкі ў вершы "...Калісьці чалавекам быў і бусел":

***Калісьці чалавекам быў і бусел,***
***І розуму хапала, і смяшку,***
***Ды быў цікаўскі: развязаў раз вузел,***
***А гадаўё, што бог нёс у мяшку,***
***Па свеце распаўзлося, бог і змусіў***
***Да скону выкупляць пракляты грэх, —***
***І ходзіць па балоце дзядзька-бусел,***
***І не вызбіраецца той лядачы мех***

Алег Лойка — паэт, празаік, літаратуразнаўца, Настаўнік прыгожага пісьменства, да ўсяго яшчэ і вялікі аматар-чытач паэзіі. Яна для яго — самае дарагое, запаветнае. Чужое высокае мастацтва паэтычнага радка ён робіць сваім, блізкім са светлай радасцю адкрыцця. На беларускую мову пераклаў кнігу выбраных твораў французскага паэта Поля Верлена "У месяцовым ззянні" (1974), кнігу І. В. Гётэ "Спатканне і ростань" (1981), паасобныя творы Р. Гамзатава, А. Міцкевіча, І. Крушальніцкага.

Напярэдадні юбілею сталасці і плёну беларускі чытач атрымаў чарговую кнігу паэзіі А. Лойкі з сімвалічнай назвай "Неўміручасць". Слынны літаратуразнаўца, творца, настаўнік слушна прысягае ў вершы "Філолагу":

***Пасля цябе, Божа,***
***А, можа, перад Табой***
***Я там, дзе ўсё прыгожа***
***Між вечнасцю і журбой.***

Творчасць Алега Лойкі азорана сапраўдным гуманізмам, улюбёнасцю ў жыццё і людзей. Яна выпраменьвае як самую вялікую каштоўнасць на зямлі веру ў чалавека, у яго стваральныя магчымасці. Шляхі да дабра, чысціні, светласці ў чалавеку заўсёды ідуць праз сумненні і пакуты. Паэтычная атмасфера творчасці пісьменніка — плённая на здабыткі ў такіх пошуках.

**Вольга КОЗІЧ**


А. Лойка, В. Зуёнак, А. Марціновіч, Ялта, 1991 г.


Я. Адамовіч, А. Лойка, А. Сабалеўскі, Слонім, 1992 г.


В. Ярац, С. Андраюк, А. Лойка, Магілёў, 1978 г.

Фота Ул. КРУКА

# Твая постаць

Алегу ЛОЙКУ

***Зямляча мой, надзейны крэўнік духу,***
***Табе хтось, пэўна, вуснамі нябёс***
***У час народзін прашаптаў на вуха***
***Твой спадкаемны, адраджэнскі лёс.***

***Як бацька, нахіліўшыся над сынам,***
***Магчыма, ў тваю першую вясну***
***Зычлівым, мудрым вокам Дух Скарыны***
***Тады ў тваю калыску зазірнуў.***

***Ці ў матчыную песню над калыскай,***
***Як гоман хваль,***
***як водсвет бліскавіц,***
***Шчымліва ўвёў мелодыю Агінскі,***
***Зачэрпнуўшы з зямных першакрыніц.***

***А колькі чыстых душ, як неба просінь,***
***І постацяў вялікасных, ідэй***
***З зямлёю гэтай прагла Уваскросін,***
***Чакаў Адродзін родны свет людзей.***

***Таму так апантана, з даўкай скрухай***
***Ты ў свет выносіш скарб і боль эпох —***
***Дзеля Адродзін!.. І жагнае Бог***
***Падзвіжнікаў, як ты, для моцы духу.***

***Ты родам з тае прагі Адраджэння,***
***Што задзіночыць мару і мілосць.***
***Каб не тварыў сябе такім, як ёсць, —***
***Зямля Айчыны выпала б з вярчэння!***

**Мікола АРОЧКА**

15.IV.2001. Вялікдзень, в. Вецявічы

## Мелодыя душы беларускай




**Гэтая пласцінка для тых, каму рэжа слых як "непрычасаны" аўтэнтычны фальклор, так і рознастылёвыя апрацоўкі яго. Беларускія песні спеўнага гурта "Купалінка" — своеасаблівы мэйнстрым, "залатая сярэдзіна" фальклорнага напрамку з ашчаднымі адносінамі да мелодыі, пяшчотнасцю тэмбраў жаночых галасоў, акадэмічнай акапэльнай манерай выканання.**

**Квартэт "Купалінка" распачаў сваю творчую кар'еру аж у 1966 годзе. Тады ўжо годна рэпрэзентаваў беларускую музычную спадчыну. І калі знакамітыя фолк-рокавыя "Песняры" ўвасаблялі мужчынскі пачатак на тагачаснай фолкавай сцэне, дык гурт "Купалінка" — жаночы. Да таго ж, творчасць ансамбля "Песняры" і квартэта "Купалінка" найбольш шырока была прадстаўлена ў грамзапісе, у каталогах адзінай тады фірмы "Мелодыя"...**

**Гурт "Купалінка" за час свайго існавання перажыў нямала творчых узлётаў і крызісаў. Ды ўсё ж, квартэт, нават пасля доўгага перапынку ў сваёй канцэртнай дзейнасці, адраджаўся, каб зноў радаваць слухачоў стройнай гармоніяй гучання, цудоўнымі мелодыямі беларускіх песень.**

**Выканаўчую школу "Купалінак" у розныя гады праходзілі шмат якія таленавітыя спявачкі — В. Антонава, В. Марозава, Н. Бранковіч. З пранікнёнымі галасамі чароўных беларусачак можна было пазнаёміцца і на філарманічных канцэртах, і з цудоўнага музычнага фільма Беларускага тэлебачання "Канцэрт "Купалінкі" (1983).**

**І вось новы кампакт-дыск "Купалінкі", які названы па першым трэку — "Зорка Венера". Што казаць, багдановічаўска-семянякаўскі шэдэўр у выкананні "Купалінкі" набывае класічную завершанасць і прадстае ў якасці стандарту беларускага меладызму.**

**На другім полюсе дыска — камерцыйная з пункту гледжання яго складальнікаў "Калінка", якая, на іх думку, павінна забяспечыць поспех дыску за межамі Беларусі. Але гэтыя рэпертуарныя адхіленні могуць толькі пашкодзіць: канцэпцыя дыска, які адлюстроўвае панараму беларускай песні, разбураецца.**

**Магчыма, выратуе цэльнасць дыска, зверне на яго ўвагу беларускіх аматараў фальклору тое, што запісана на трэках паміж полюсамі. А гэта песні каляндарна-абрадавага цыкла, лірычныя, сямейна-бытавыя, гумарыстычныя песні, — усё тое, што адлюстроўвае багацце душы беларускай. Таму і замежны, і айчынны слухач адзначыць яе паэтычную сутнасць. Нездарма ж, галасы "Купалінкі" так чуйна рэзануюць зграбным мелодыям, пярлінам беларускай фальклорнай спадчыны — песням "Купалле" ("Ой, рана на Івана"), "Любая", "А ў полі тры крынічанькі", цудоўнай украінскай песні "Нясе Галя воду". А як перададдзена рыцарская шляхетнасць сярэднявечнай балады "Ануся-сэрданька": тут і вытанчаная мелодыка, і незвычайны тэмбр галасоў змешанага ансамбля, і рэнесансная інструментоўка. Добры трэк для будучай кампіляцыі "Легенды Вялікага Княства", што рыхтуе да выхаду БМА-груп.**

**Ёсць на дыску і тое, чым славіцца беларуская фальклорная сцэна: гарачыя танцавальныя нумары, што могуць упрыгожыць любое свята ці канцэрт ("Карапет", "Дудалка-стукалка"). Ногі самі ў скокі ідуць ад такой цудоўнай музыкі!**

**Трэба адзначыць, што новы кампакт-дыск "Зорка Венера" выдадзены за мяжой дзякуючы спонсарам — аб'яднанню "Белатракцыён" і, збольшага, разлічаны на замежнага слухача. Але і для тутэйшага беларуса гэты дыск прадстаўляе не абы-які інтарэс: "залатыя часы" былі і ў ветэранаў беларускай фальклорнай музыкі...**

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

ТЭАТР

# Мінскі драматычны тэатр "Дзе-Я?": два гады без Міколы Трухана

Творчае жыццё Мінскага драматычнага тэатра "Дзе-Я?" у мінулым годзе было насычаным і бурлівым. У сакавіку калектыў адзначыў гадавіну з дня заўчаснай смерці свайго стваральніка і нязменнага мастацкага кіраўніка — рэжысёра Мікалая Мікалаевіча Трухана (яго абавязкі часова выконвала актрыса Тамара Міронава). Пад яе кіраўніцтвам у 2000 г. былі адноўлены спектаклі М. Трухана — "Імжа" І. Кофты, "Распад" па У. Шэкспіру, "Здань" і "Круці..." па творах Ф. Аляхновіча. На сакавіцкім тыдні памяці М. Трухана ўсе яны былі паказаны пры перапоўненай зале.

З энтузіязмам таксама была праведзена і вечарына памяці М. Трухана на яго радзіме — у гарадскім пасёлку Плешчаніцы Лагойскага раёна. Удзячныя землякі рэжысёра шчыльна запоўнілі вялікую глядзельную залу мясцовага Дома культуры, дзе ім быў паказаны спектакль "Імжа".

Рэпертуарная афіша калектыву ў гэты час была насычанай і дастаткова разнастайнай. Акрамя названых спектакляў М. Трухана, яна ўключала некалькі казак для дзяцей і тры прэм'еры мінулага года — біблейскі фарс Е. Юрандота "Дзевяты праведнік" у пастаноўцы Мікалая Дзінава, а таксама камедыю А. Талстога "Любоў — кніга залатая" і казку Л. Фельдака "Чараўнік Батафога" (рэжысёр Ірэна Мацкевіч). У 2000 годзе "Дзе-Я?" паказвала свае спектаклі ў Гродне і Пінску. Адбыліся таксама і традыцыйныя для калектыву штогадовыя дабрачынныя гастролі ў так званую чарнобыльскую зону Беларусі (арганізаваны сумесна з дзіцячым фондам "Сакавік"). Вясной і летам пачалася праца над двума новымі спектаклямі з запрошанымі рэжысёрамі — Міхаілам Лашыцкім і Рыдам Таліпавым. Пасля жнівеньскага адпачынку ў трупе тэатра адбыліся змены. Некаторыя вядучыя артысты (Т. Міронава, Г. Чарнабаева, Г. Гатоўчыц) перайшлі ў іншыя калектывы. Свой 9-ты сезон "Дзе-Я?" пачала з новым галоўным рэжысёрам Ірэнай Мацкевіч — выпускніцай БелАМ 1993 года. Новы сезон урачыста адкрыўся 17 кастрычніка прэм'ерай. Быў паказаны фарс Б. Брэхта "Мяшчанскае вяселле" ў пастаноўцы маладога рэжысёра М. Лашыцкага (вучня Барыса Уторава). А ў снежні мастацкая рада тэатра прыняла спектакль сталага майстра Р. Таліпава — драму А. Чэхава "Іванаў".

Аб пастаноўцы чэхаўскай драматургіі ў тэатры "Дзе-Я?" марыў яшчэ М. Трухан. У маладосці ён сам вельмі выразна сыграў ролю самавітага белетрыста Трыгорына ў спектаклі Беларускага ТЮГа "Чайка" (1977 г., рэжысёр Р. Баравік). Да таго ж, 2000 год стаў юбілейным для Чэхава. Паклоннікі яго творчасці адзначылі 140-годдзе з дня нараджэння драматурга. І вось у гэты знамянальны час дзеецы з энтузіязмам пачалі ажыццяўляць даўнюю мару свайго былога мастацкага кіраўніка. Трэба дадаць, што рэжысёр Р. Таліпаў таксама шмат гадоў выношваў ідэю пастаноўкі менавіта п'есы "Іванаў", якая вельмі кранала яго душу. Тым больш, што за плячыма ўжо быў нядаўні станоўчы вопыт працы над чэхаўскай "Чайкай" у Гомельскім абласным драматычным тэатры.

Драма "Іванаў" стваралася аўтарам на працягу некалькіх гадоў і мае розныя варыянты. Сцэнічная гісторыя п'есы на рускай сцэне даволі багатая і ўпрыгожана цэлым сузор'ем зорных імёнаў. Напрыклад, нельга не ўспомніць адну з першых пастановак (1889 г.) у Александрынскім тэатры Пецярбурга, дзе ў галоўных ролях выступалі — У. Давыдаў (Іванаў), П. Стрэпетава (Сара), М. Савіна (Саша).

У Беларусі "Іванаў" нямала ставіўся да 1917 г. Вядома, што адзін з першых паказаў гэтай п'есы адбыўся ў Мінску у лістападзе 1891 г. А зрабіў гэта мясцовы тэатральны калектыў — антрэпрыза А. Картавава. П'есы А. Чэхава былі папулярнымі. З 1910 г. іх пачалі нават выдаваць на беларускай мове. Да нядаўняга часу нашы тэатры чамусьці не праяўлялі цікавасці да "Іванава" (хаця сцэнічная гісторыя іншых чэхаўскіх драм дастаткова багатая). Завесу маўчання перарваў рэжысёр Якаў Натапаў. Ён паставіў гэты твор у жанры трагікамедыі пад назвай "Іванаў, Сара і Шурачка" (Брэсцкі тэатр драмы і музыкі, 1996 г.). Некаторыя мінчане памятаюць і адзіны гастрольны паказ "Іванава" Ульянаўскім акадэмічным Рускім драматычным тэатрам імя М. Горкага (чэрвень 1999 г.). Спектакль вызначаўся грунтоўным, амаль класічным вырашэннем і строгай манерай выканання.

І вось сёння "Іванаў" — на сцэне сталічнага беларускамоўнага тэатра "Дзе-Я?" (пераклад п'есы ўдала зрабіў літаратар і акцёр Мікола Казачонак). Сюжэтная калізія гэтай п'есы — звычайная для А. Чэхава. У полі зроку драматурга мяцежны лёс яго сучасніка — чалавека інтэлігентнага, высокаадукаванага, але нешчаслівага. Малады і прыгожы герой знаходзіцца ў разладзе сам з сабою. У высакародных думках ён імкнецца да гарманічнасці чалавечых адносін, а на справе выступае як іх разбуральнік. Чаму гэта адбываецца? Куды знікае гарачае каханне? Які чалавек Іванаў — добры ці злы? І наколькі яго ўчынкі характэрныя для нас — людзей сённяшніх? Ва ўсіх гэтых пытаннях і вырашыў разабрацца рэжысёр Р. Таліпаў і артысты тэатра "Дзе-Я?". А час для гэтага быў. Карпатлівая праца над спектаклем вялася звыш за паўгода. Адміністрацыя стварыла ўсе ўмовы, каб яна была паспяховай, нават у апошнія два месяцы адмяніла ўсе спектаклі і рэпетыцыі іншых рэжысёраў.

Як ужо адзначалася, п'еса "Іванаў" мае розныя варыянты. Пастаноўшчык аб'яднаў іх, узяўшы ад аднаго менш драматычны фінал, ад другога — жанр камедыі і ў цэлым скарціў да мінімуму колькасць другарадных дзеючых асоб. Дынамізацыя асноўнай сюжэтнай лініі адбываецца паступова — па нарастаючай. Спектакль пачынаецца на пустой цёмнай сцэне, на якой стаіць толькі адно крэсла. Прамень юпіцера высвечвае сядзячага галоўнага героя, які спакойна чытае кнігу. А ў фінале, калі Іванаў нечакана памірае ад сардэчнага прыступу, сцэна залітая яркім святлом, на ёй прысутнічае ўся прадметная атрыбуцыка спектакля і ўсе яго персанажы. Рэжысёр удала выкарыстоўвае спецыфічную сцэнічную пляцоўку дзееўцаў. Згодна яго задуме яна ўяўляе сабой карабель, які плыве ў акіяне і час ад часу падае трывожныя гудкі — відаць, не ўсё на ім у парадку. Гледачы як бы бачаць нутро гэтага карабля жыцця, яго трум і падзеі, што там разгортваюцца. Прайшло жыццё, усплыў карабель, яшчэ раз трывожна загудзеўшы на развітанне...

Асноўныя падзеі спектакля сканцэнтраваны вакол любоўнага трыкутніка: Іванаў — яго жонка Ганна Пятроўна — і маладая дзяўчына Саша. 35-гадовы памешчык Мікалай Аляксеевіч Іванаў у выкананні Ігара Падлівальчава — прыгожы інтэлігентны малады мужчына з мяккімі манерамі. Ён ніколі не ўзвышае голас, а толькі лёгкая грымаса раздражнення можа адлюстравацца на яго высакародным твары. Выконваючы задуму рэжысёра І. Падлівальчаў падае Іванава чалавекам не злым, які проста ў сілу свайго характару не здольны адвечна кахаць ці грунтоўна весці гаспадарку. Герой вельмі пакутуе ад таго, што не можа даць шчасця дарагім для яго людзям. У выніку ён гіне ад унутранага душэўнага разладу. Жонка Іванава — Ганна Пятроўна, народжаная Сара Абрамсон, у выкананні таленавітай купалаўскай актрысы Зоі Белахвосцік скарае сваёй пяшчотай, безабароннасцю, трапяткой жаночай абаяльнасцю. Выразная міміка гераіні, багатая адценнямі мова, лёгкасць рухаў — добра дапаўняюць гэтае моцнае ўражанне. Усё аддала Сара на алтар кахання — змяніла веру, пайшла ад бацькоў і іх багацця, а шчасліваю не стала. А ці патрэбны такія ахвяры, калі губляеш





сам сябе?.. Безумоўна, удачай спектакля з'яўляецца ўвасабленне вобраза Сашы Лебедзевай маладой артысткай (студэнткай БелАМ) Наталляй Капітонавай. Яе моцная ўнутраная энергетыка і знешняя абаяльнасць прымушаюць безагаворачна паверыць у тое, што гераіня сапраўды безаглядна кахае Іванава і можа стаць яму выключна надзейным сябрам у жыцці.

У гэты ўдалы акцёрскі ансамбль добра ўпісваюцца і іншыя выканаўцы: Анатоль Кляшторны (пакорны, які разгубіўся ў жыцці, стары граф Шабельскі), Артур Федаровіч (суровы і справядлівы малады ўрач Львоў), Аляксандр Гусеў (мяккі і добразычлівы дваранін, бацька сямейства Лебедзеў), Людміла Баталава (яго крывадушная і карыслівая жонка Зінаіда Савішна), Сяргей Тоўсцікаў (фанатычны картачны гулец Касых) і іншыя артысты. Умацоўваюць ансамбль дзееўцы таксама і запрошаныя акцёры: Вольга Сізова (вельмі прыгожая і разумная маладая памешчыца Бабакіна) і Андрэй Гладкі (абаяльны выдумшчык і прайдзісвет Боркін).

Дэталёвая псіхалагічная распрацоўка вобразаў спектакля "Іванаў" і ўсяго сюжэта выглядаюць пераканаўча і даюць падставу гаварыць аб тым, што ўвогуле пастаноўка вырашаецца прыёмамі рэалістычнага псіхалагічнага тэатра. Аднак у гэту канву падчас урываюцца асацыятыўна-знакавыя элементы тэатра абсурду, што выклікае развагі аб некаторай эклектычнасці рэжысёрскага почырку. Напрыклад, замест крыкаў савы мы чуем гудкі парахода, замест сонечнай летняй тэрасы бачым пустую чорную сцэну, маленькая чырвоная сумачка Бабакінай (якая сімвалізуе любоўную страсць гераіні) ніяк не стасуецца з яе вячэрняй сукенкай і іншае. Увогуле касцюмы персанажаў выглядаюць рознастылявымі: чэхаўскай пары, сучасныя. А строі Бабакінай і Зінаіды Савішны нагадваюць адзенне жанчын "срэбранага веку". Здзіўляе і прыўнясенне грубаватай эратычнасці ў некаторыя сцэны (Бабакіна — Боркін, Сара — Шабельскі). Не пакідае цэласнага ўражання і музычнае вырашэнне спектакля, якое складаецца з твораў кампазітараў зусім розных па творчых напрамках і стылях — А. Глазунова, Ф. Шапэна, П. Чайкоўскага, І. Штрауса...

Тым не менш, нягледзячы на пэўныя стылявыя няроўнасці, неабходна адзначыць, што ўвогуле спектакль "Іванаў" адбыўся. У яго ёсць сур'ёзнае псіхалагічнае вырашэнне, якое трымае ўвагу гледачоў, абуджае іх думкі і пачуцці. Нельга не заўважыць і той значны выхаваўча-творчы ўклад, які ўнёс сталы майстра Рыд Таліпаў, працуючы з дзееўцамі ў адносна нестабільны для іх час.

Яшчэ адзін прэм'ерны спектакль ідзе сёння ў тэатры "Дзе-Я?". Гэта — фарс Б. Брэхта "Мяшчанскае вяселле" ў пастаноўцы маладога рэжысёра Міхаіла Лашыцкага (выпускніка БелАМ 1997 г.). Аднак рабіць нейкі сур'ёзны аналіз гэтай працы пакуль рана, таму што амаль адразу ж пасля прэм'еры ў спектакль неабходна было ўвесці новых выканаўцаў (па аб'ектыўных прычынах). Спектакль з вялікімі перапынкамі прайшоў лічаную колькасць разоў і зараз знаходзіцца ў стадыі станаўлення. Тым не менш, ён ужо карыстаецца ўвагай гледачоў, якіх прываблівае займальная сатырычная фабула, вясёлы і вельмі энергічны тэмп дзеяння, якое перамяжоўваецца шматлікімі песнямі і танцамі. Рэжысёр і артысты лёгка і нязлосна высмейваюць быццам бы дробныя мяшчанскія заганы людзей, якія, аднак, могуць прывесці чалавека да свінячага стану. Асабліва калі ён жыве бездухоўна і выключна матэрыяльнымі інтарэсамі. У спектаклі занятыя: Анатоль Кляшторны, Людміла Баталава, Артур Федаровіч, Алеся Пухавая, Мікола Казачонак і іншыя дзееўцы, якія ствараюць адметныя сатырычныя вобразы.

Увогуле, як мы бачым, Мінскі драматычны тэатр "Дзе-Я?" у 2000 годзе жыў актыўным творчым і грамадскім жыццём — выязджаў на гастролі, рыхтаваў прэм'еры, паказваў дабрачынныя спектаклі, падтрымліваў у належным стане свой бягучы рэпертуар. Восенню ў тэатры прайшла атэстацыя творчых работнікаў. Гэты экзамен калектыў таксама вытрымаў паспяхова. Усё пералічанае дае падставы спадзявацца на тое, што ў невялікага беларускамоўнага калектыву дзееўцаў добрыя творчыя перспектывы.

**Людміла ЛЯВОНАВА**

*На здымках сцэны са спектакля "Іванаў".*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

ГОСЦІ

# "Цягнік" прыпыніўся ў Мінску

***З Марэкам Халанеўскім, кампазітарам, прафесарам, кіраўніком Кракаўскай студыі электраакустычнай музыкі, мы пазнаёміліся леташняй вясной. Тады разам са сваёй калежанкай Магдаленай Длугаш ды габаістам-віртуозам Марыюшам Пэндзялакам ён пабываў у Мінску на фестывалі "Позірк у XXI стагоддзе".***




ЦЕНІ

(SCHATTEN)

Першы візіт мэтра электраакустычнай музыкі ў "некамп'ютэрызаванае" асяроддзе беларускіх кампазітараў і выклікаў захапленне, і навеў на пэўныя высновы наконт нашых творчых перспектыў. Пра гэта і артыкул быў: "Узровень zero? Ад размоў да справы!" (гл. "ЛіМ" за 30.06.2000 г.). І сёння як адно з моцных уражанняў прыгадваецца дэманстрацыя прафесарам Халанеўскім ягонага інжынернага вынаходніцтва. Прэзентуючы кампазіцыю "Dark and Lightzone" для аптычнай сістэмы і камп'ютэра, пан Марэк, аплецены правадамі і датчыкамі, рухаўся па сцэне, маніпулюючы вялізнай лямпай. Нараджалася сапраўдная светлагамузыка: праз "інструментарый" гук рэагаваў на крыніцу святла! Адлегласць лямпы ад датчыкаў, размешчаных у самых розных пунктах (напрыклад, на падлозе і... пад сківіцай музыкі-вынаходніка), уплывала на інтэнсіўнасць, тэмбр, вышыню, рытміку гучання камп'ютэрнага "голасу".

Але потым, адказваючы на пытанні агаломшаных відавочцаў тэхнічнага дзіва, М. Халанеўскі падкрэсліваў:

**— Сутнасць мастацтва — кантакт чалавека з чалавекам. І таму зусім не галоўнае, якая тэхніка выкарыстоўваецца творцамі. Галоўнае — жывы рух, жэст, своеасаблівы тэатр. Таму паказ электраакустычнай творчасці вымагае пэўнага асяроддзя і абавязковага ўдзелу жывога чалавека: або музыканта, або відачынцы, або артыста балета...**

●

Размова пра тое, у якіх адмысловых варунках можа існаваць электраакустычная музыка, прадоўжылася праз год. Марэк Халанеўскі завітаў да нас падчас фестывалю "Мінская вясна-2001". Гэтым разам — з "Таварным цягніком!"! Такую назву — "Pociąg Towarowy" — мае музычная група, заснаваная М. Халанеўскім разам з К. Кнітэлем ды П. Біконтам у 1986 г. За 15 гадоў у складзе "Цягніка" сустракаліся розныя музыканты, а на яго шляху — розныя пункты прыпынку: фестывалі альтэрнатыўнай музыкі і новай музыкі, нямога кіно, у Варшаве, Вроцлаве, Кракаве, Штутгарце ды Вільні. Нарэшце, "дагнаў" да Мінска. І прывёз сюрпрыз.

У межах праекта "Нямыя фільмы з жывой музыкай" (ён ажыццяўляецца студыяй "Muzyka Centrum" ды Інстытутам Гётэ ў Кракаве) быў наладжаны паказ кінастужкі "Цені". Яна знята ў 1924 г. на германскай студыі рэжысёрам А. Робісанам. Чын колішняга талёра, піяніста-ілюстратара сеансаў у нямым кінематографе пачатку мінулага стагоддзя, узяў на сябе "Таварны цягнік" узору стагоддзя новага. А гэта — аж чатыры асобы, чатыры таленты з адметным творчым лёсам.

Хто ж завітаў да нас у "Цягніку"?

Марэк Халанеўскі, камп'ютэрны ас, кампазітар і канцэртант, асветнік, педагог, ініцыятар і кіраўнік міжнародных музычных майстаркласаў у Еўропе ды Амерыцы, фестывальных праектаў. Пётр Біконт, вакаліст групы, рэжысёр-кінематаграфіст, перакладчык, журналіст. Кшыштаф Кнітэль, спанатраны ў рэжысуры, кампазіцыі, камп'ютэрнай музыцы, стваральнік груп інтуіцыйнай ды электроннай музыкі, арганізатар канцэртнага жыцця, прэзідэнт Саюза польскіх кампазітараў; у "Цягніку" — выканаўца на электронных інструментах. Уладзімеж Кінёрскі — кампазітар, мультыінструменталіст, удзельнік мультымедыяльных акцый, аўтар музыкі да тэатральных пастановак, джазавы саксафаніст...

Не, гэта далёка не ўсё, што можна распавесці пра дзейнасць рознабаковых і неўтаймоўных у творчасці людзей. Яшчэ цяжэй распавесці пра імпрэзу, наладжаную імі ў нашай сталіцы. Дарэчы, адбылася яна пад эгідай Міністэрства культуры Беларусі, Польскага інстытута ў Мінску, Беларускай акадэміі музыкі ды сталічнай філармоніі.

А доўжылася ўсё гадзіну. Дзіўная "кінаперасоўка" зачаравала перапоўненую залу Акадэміі музыкі нязвыклым аўдыёвізуальным штукарствам, у якім арганічна перапляталіся рэчы (ці рэчывы?), здавалася б, незлучальныя. Архаіка чорна-белых кадраў, працятых духам т. зв. нямецкага экспрэсіянізму, з рэдкімі тэкставымі ўрэзкамі на незразумелай для многіх мове. Найноўшасць знаходак у сферы электроннага гуку. Акустычныя эфекты натуральных інструментаў: саксафона, кантрабаса, дудачкі, ударных. Скупая рэчытацыя жывога чалавечага голасу, шматкроць на розны лад прэпараваная з дапамогай тэхнікі...

●

З голасу — са слова! — усё, бадай, і пачыналася. Па-беларуску прагучаў эпіграф, які пазней быў агучаны зноў, ужо нібы пастскрыптум. Нагадаў ён пра тое, што кожны чалавек змяшчае ў сабе яснасць, звязаную з ягонай свядомасцю, і жарсці, якія нібы чарада ценяў насоўваюцца на свядомасць. І тады жыццё наша ператвараецца... Ува што? А вось тут ужо кожны глядач ды слухач мог дазволіць сабе гульню ўяўлення, пад гучанне дзівоснай інтуіцыйнай, асацыятыўнай (ні ў якім разе не ілюстрацыйнай!) музыкі назіраючы за экраннымі жарсцямі. Праўда, міжволі раз-пораз увага пераключалася на ахінутых цемрай музыкаў.

Дык што ж там за "Цені" былі на экране? Якая драма разыгралася ў доме безыменных герояў падчас вечарынкі? Хто была тая пані, вакол якой згушчваліся цені жарсцяў, неўразумеласцяў, звадак? Хто былі тыя мужчыны, чые гарачыя спрэчкі прывялі нібыта да крывавай развязкі? Хто каму і з якой прычыны зайздросціў? Ці, можа, гэтае слова — "зайздрасць", шматкроць прашаптанае, прамармытанае, выдыхнутае, прасмяянае — проста высунулася-вызвалася, стрэліла з чалавечай падсвядомасці? З падсвядомасці лёкая, якому спрадвек і навек, нават у сне, спакою не дае жыццё гаспадароў, "панскія таямніцы"?

Наіўны экранны "жудзік", не толькі насычаны ценямі ад загадкавых звіваў фабулы, але і аздоблены дасціпнымі натуральнымі ценямі ад постацей, рук, пальцаў (тут табе і абрысы жывёлін, і гуллівы сілуэт, ну, амаль сённяшняга плэйбойскага трусіка, і пазнавальны ўбор картачнага джокера)... Ён скончваецца нечакана лёгка: яснай раніцай у пакоі гаспадыні расчыняецца вакно, і яна, жывая-здаровая, усміхаецца сонцу разам са сваім шчаслівым кавалерам. А на бруку пад вакном, дзе ўначы нібыта ляжаў выкінуты з дому чалавек, разгортваюць свой скарб вулічныя гандляры. Уздрыгвае, прачнуўшыся, гаспадарскі лёкай. Цені знікаюць. І цені, і сны аказваюцца часам страшнейшымі за рэальнасць, у якой усё куды больш устойліва, будзённа, банальна і... недарэчна-смешна.

Думаю, паглядзеўшы-паслухаўшы "Цені" ў другі раз, я ўспрыняла б усё зусім не так. Але ці будзе той другі раз? Праз год прафесар Халанеўскі, пэўна, прыедзе ў Мінск ужо з новым сюрпрызам, каб пацвердзіць вялікія выразныя магчымасці электраакустычнай музыкі. І паспрыяць захапленню гэтым відам творчасці ў асяроддзі беларускіх кампазітараў, выканаўцаў, мастакоў.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ВЫСТАВЫ

# Пра што гавораць календары

***У чытальнай зале аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі рэгулярна арганізуюцца выставы па матэрыялах асобных калекцый, экспазіцыі гісторыка-кніжнай тэматыкі, паказы літаратуры, прысвечаныя юбілейным датам ці значным падзеям гісторыі Беларусі.***
***Вось і на гэты раз у чытальнай зале наладжана выстава календароў, што захоўваюцца ў бібліятэцы Акадэміі навук.***

Слова каляндар лацінскага паходжання — ад календарыум, літаральна пазыковая кніга, дзе пазначаліся першыя дні кожнага месяца — так званыя календы, калі старажытныя рымляне, якія мелі даўгі, павінны былі па іх плаціць працэнты. Таму ў старажытным Рыме календарамі называліся даўгавыя кнігі. Пазней у календарах сталі запісваць дні нараджэння імператараў, пасяджэнняў сената, культавыя святы, прадказанні і інш.

На працягу доўгага часу найбольш папулярнай і распаўсюджанай у быце кнігай быў каляндар, які ўяўляў простую табліцу з азначэннем дзён тыдня, чыслаў месяца, святаў, пастоў і які напачатку насіў назву пасхаліі.

Праобразам сучасных календароў з'яўляліся: святцы, мартыралогі, чэцці-мінеі і іншыя царкоўныя кнігі, якія змяшчалі жыццеапісанні святых, малітвы, павучэнні па месяцах і на кожны дзень. Дарэчы, слова "мінея" ўтварылася ад грэчаскага "мен", што азначае месяц. Невыпадкова пазней календары атрымалі назву месяцасловаў.

На выставе некалькі ўзораў такіх выданняў. Гэта "Псалтыр", выдадзены ў Магілёве ў 1705 годзе, "Святцы", надрукаваныя ў 1797 годзе ў Вільні, і "Жыццеапісанне святых" Пятра Скаргі 1747 года выдання.

Далей выстаўлены месяцасловы, надрукаваныя на пачатку XVIII стагоддзя грамадзянскім шрыфтам. Акрамя каляндарных даных, у іх размешчана шмат агульнаадукацыйных звестак разнастайнага характару. Напрыклад, у календары на 1722 год надрукаваны артыкулы "Аб зацменнях сонечных і лунных на 1722 год", "Прагноcцік аб вайне і мірскіх справах", "Аб хваробах года і калі лекі прымаць". У месяцаслове на 1724 год апошні артыкул дапаўняецца інфармацыяй аб тым, калі пускаць кроў асобам рознага тэмпераменту. А ў артыкуле "Аб здароўі і хваробах" даюцца не прадказанні аб чакаемых хваробах, як у папярэдніх месяцасловах, а разважанні аб змяненні арганізма кожныя сем год.

Шматлікія рукапісныя паметы і запісы на некаторых календарах сведчаць аб тым, што яны былі настольнай кнігай у былых уладароў. Часцей усяго запісы бытавога, гаспадарчага ці дзённікавага характару рабіліся на чыстых, без тэксту, аркушах, якія для зручнасці ўклейваліся ў каляндар перад кожным наступным месяцам. Пэўна, выдаўцы такім чынам клапаціліся аб будучых іх карыстальніках.

У другой палове XVIII стагоддзя календары пачынаюць выдавацца на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Сярод іх вызначаюцца польскія "гаспадарчыя календары", якія друкаваліся ў Гродне ў "каралеўскай друкарні". Арандатарам друкарні і фактычным яе ўладальнікам быў палітычны і грамадскі дзеяч на Беларусі і ў Літве Антоній Тызенгаўз. Гродзенскія календары мелі доўгую і складаную назву. Напрыклад: "Гаспадарчы каляндар на 1780 год з выказам рымскіх і рускіх свят, далей аспекты, выбары, ход планет, змены паветра, час сяўбы, прышчэплівання, ужывання лекаў, усходу і заходу сонца, зацьмення і іншыя цікавыя назіранні".

Значна пашырылася каляндарная выдавецкая справа ў XIX стагоддзі. Вырасла колькасць выдаваемых календароў, павялічыўся іх аб'ём. У "Заходне-рускім месяцаслове", "Віленскім календары", "Месяцаслове гаспадарчым" і іншых календарах друкуюцца звесткі юрыдычныя, камерцыйныя, статыстычныя, інфармацыя аб рабоце пошты, тэлеграфа, пошлінах, чыгуначным руху.

Немагчыма ў кароткім артыкуле расказаць аб усёй калекцыі календароў. Іх у фондзе Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі каля 400. Ды і наогул складана гаварыць аб старых і рэдкіх кнігах. Іх лепей убачыць, прагнікнуцца іх абаяльнасцю і як бы дакрануцца да вечнасці.

Наведайце выставу. Яна працуе з 9 да 17 гадзін штодзённа, апрача суботы і нядзелі.

**Аліна ЧАРНЯЕВА,**
**навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх рукапісаў ЦНБ НАН РБ**





## Майская афіша маладзечанцаў

Багатай на прэм'еры абяцае быць майская афіша Мінскага абласнога драматычнага тэатра з Маладзечна. Так, 18 мая калектыў пакажа пастараль для дзяцей "Проста Мяфа" Алёны Палешчанкавай у пастаноўцы Таццяны Пацай, а напрыканцы месяца — адразу два спектаклі: антыутопію-маналог "Білет у рай" паводле п'есы Юліу Эдліса "Дзьмухавец" (рэжысёр — Валерый Мурычын), а таксама меладраму "Вечар" Аляксея Дударава, якую ставіць заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Валерый Мазынскі.

**М. СЕРАФІМОВІЧ**

## "Всемирная литература", N 4

"Народны нацыянальны дух жывы!" — так назваў свае развагі В. Ганічаў. Аўтар прыходзіць да высновы: "Разам з хрысціянскай царквой, іншымі рэлігіямі трэба рашуча выступаць супраць антыкультуры, супраць развіцця ганебных, прымітыўных інстынктаў, супраць псеўдатворчасці, літаратурнай і журналісцкай пустаты, спароджанай камерцыяй і рынкам. Трэба змагацца супраць бескантрольнага панавання багатай эліты над усім светам, уладу маючых над простымі людзьмі. Трэба ўсім, паўсюдна, весці вострую размову аб вялікай адказнасці грамадства, улады, народа на мяжы трэцяга тысячагоддзя. Таму што гэтая дата — падзея, сэнс якой прасціраецца далёка за межы жыцця асобы, народа, пакалення, сацыяльнай групы". Паэзія прадстаўлена вершамі Т. Бек і Г. Ібсена. Тут жа змешчаны артыкул Д. Норсама "Ібсен апявае шчодрасць сэрца". Друкуюцца працяг рамана Я. Ніедры "І ветры гуляюць па папялішчы", заканчэнне рамана М. Эліяды "Дзевятнаццаць руж", падборка апавяданняў французскіх аўтараў. Прапануецца пачатак кнігі св. Тарэзы з Авілы "Замак душы". І. Лісоўская рэцэнзуе кнігу паэзіі Т. Мушынскай "Рабро Адама", М. Варадпандэ — "Індыйскія фрэскі ў стылі пахары".

## "Крыніца", N 64

Васіль Стус. Вязень ГУЛАГа. У застойныя часы — чалавек-легенда і паэт-легенда. Чарговы нумар часопіса "Крыніца" адкрываецца жыццяпісам нашага ўкраінскага пабраціма і цытатамі з яго тлумачальнае запіскі, з лістоў і лагернага сшытка. Вершы паэта друкуюцца ў перакладах Алеся Каско, Васіля Сахарчука, Алега Мінкіна ды Валерыя Стралко. Змешчаны эсэ Яўгена Сверцюка "Васіль Стус — крылатая зорка ўкраінскай паэзіі", нататкі Васіля Гэя і Алеся Каско. Леанід Галубовіч друкуе верш "Мур" ("Чытаю Стуса. Вечарам. Адзін...").

Оскар Уайльд. Таксама пісьменнік-легенда. Сярод іншых твораў у залаты фонд сусветнае літаратуры ўвайшоў і ягоны ліст з вязніцы "De profundis". Гэты твор "Крыніца" друкуе ў скароце (перакладчыца — Вольга Міхайлава). Прадмову да публікацыі напісала Галіна Дубянецкая.

Чарнобыльская зона. Пра здароўе беларускіх дзяцей клапоцяцца і ў Бельгіі. Аднаго хлопца з вёскі Вялікі Бор Хойніцкага раёна прымала сям'я настаўніцы Ліві Кунэн. Потым разам са сваімі сябрамі з харытатыўнай арганізацыі яна пабывала ў Мазыры, Вялікім Боры і Хойніках ды напісала пра гэта нарыс "Свята ў Беларусі". Гэты твор (у скароце) надрукаваны ў перакладзе Леаніда Казыры.

Выпускнік філфака Пятро Матыль атрымаў чырвоны і таму "свабодны" дыплом. Ехаць у вёску — гэта не толькі сеяць разумнае добрае вечнае, але таксама сеяць наградах, гадаваць свіней і г. д. Уладкавацца ў сталіцы — праблема. Пра тое, як выпускнік універсітэта становіцца прафесійным жабраком, апавядае Язэп Палубятка ў сваёй аповесці "Прыгоды Мармулка" (у нумары змешчаны яе пачатак; заканчэнне будзе).

У нумары публікуюцца таксама падборкі вершаў Юрыя Карэйвы і Алеся Спіцына, а таксама працяг працы Алеся Астраўцова "Не казка, а міф".

**Ф. ТРОНКА**

ВІНШУЕМ!

# Лёс паэта як лёс Айчыны

***27 красавіка споўнілася 50 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Міхася БАШЛАКОВА. Нарадзіўся Міхась Захаравіч Башлакоў у пасёлку станцыя Церуха (цяпер пас. Баштан) Гомельскага раёна. Скончыў Грабаўскую сярэднюю школу (1968), Гомельскі дзяржаўны універсітэт (1973). Доўгі час настаўнічаў на Гомельшчыне і Браншчыне. Працаваў карэспандэнтам-арганізатарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі. З 1991 г. у арганізацыйна-метадычным цэнтры па выданні гісторыка-дакументальных хронік Памяці Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь. Удзельнік ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Аўтар кніг паэзіі "Касавіца" (1979), "Начны паром" (1987), "Дні мае залатыя" (1993), "Лілея на цёмнай вадзе" (паэма, 1994), "Як слёзы горкія Айчыны..." (1999), "Матчыны грыбы перабіраю" (2000), "Пяро зязюлі падніму", "Світальныя коні" (абедзве 2001).***

***Віншуем Міхася Захаравіча з юбілеем і зычым здароўя, шчасця і плёну ў творчасці.***



Перад паэтам стаіць непасільная задача: ператварыць імгненне ў вечнасць, свой жыццёвы вопыт у вопыт чалавецтва, сваім лёсам даказаць даўнюю ісціну, якую прыпісваюць Герберту Спенсеру, што ўсё ў прыродзе звязана між сабой. Калі гэта яму ўдаецца, то праз смугу часу мы адчуваем, як б'ецца сэрца Катула ў Старажытным Рыме, скаланаемся ад Нямігі крывавых берагоў, пра якія паведаў аўтар "Слова аб палку Ігаравым" ці чуем рык зубра ў палескай пушчы, дзякуючы Міколу Гусоўскаму.

У Міхася Башлакова вельмі абвостраная, аголеная паэтычная натура. Здаецца, што паміж сэрцам паэта і рэчаіснасцю адсутнічае грудная клетка.

*Божа, змілуйся*
*Дзе я?*
*На Страшным судзе?*
*Дык чаму ж*
*Адымаеш ты сілы?*
*Дай дайсці мне*
*Наперадзе там*
*Засвяціла*
*Лілея на цёмнай вадзе*
*Лілея на цёмнай вадзе*

За кожны крок, за кожнае сваё слова паэту даводзіцца плаціць, і немалую цану...

Міхась рос без бацькі. Скончыўшы Грабаўскую сярэднюю школу, працягваў вучобу ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце. Затым доўгі час настаўнічаў на Гомельшчыне, Браншчыне. Час адпачынку бярог для вершаў і дарог. Вандраваў па Беларусі, Расіі, Украіне. Калі здарылася чарнобыльская катастрофа, ездзіў з выступленнямі па раёнах, якія падвергліся радыеактыўнай небяспецы. Няшмат ахвотнікаў знаходзілася тады паехаць разам з ім у камандзіроўку... Тады і пахіснулася яго здароўе, тады і апала на старонкі ягоных кніг воблака бяды. Што ж, ягоныя вершы падзялілі лёс Беларусі...

Няпросты яго шлях у беларускую літаратуру. Можна з поўным правам сказаць, што паэта Міхася Башлакова стварыла Палессе. Без Лельчыц, Турава, Нароўлі не было б гэтага імя ў літаратуры. Палессе ўдыхнула ў яго душу, якую не давярала іншым. Палессе чакала такога паэта.

*Вы чакалі мяне?*
*Я прыйшоў*
*Вы такога мяне чакалі?*
*Я прынёс вам боль гэтых слоў,*
*Што нанізаны, як каралі*

Магчыма, некаму хацелася б прыгладзіць паэтычную чупрыну Міхася Башлакова, адкінуць горкія словы, змякчыць жорсткую пазіцыю, але... тады б Палессе адвярнулася ад яго...

Помню, як у дажджлівае надвор'е ён распальваў на лясной паляне касцёр. Дождж заліваў агонь, але Міхась шастаў па лесе, знаходзіў сухія галінкі, чарадзейнічаў ля агню, пакуль той не разгараўся. Як пісаў Ясенін: "Коль гореть, так уж гореть сгорая..."

Жар яго душы ў яго вершах і паэмах. Я люблю варушыць гэтае вуголле. У лясах за Лельчыцамі знаходзіў ён мелодыю сваіх вершаў. Найбольш радасны ўспамін — час напісання паэмы "Цар-дуб". Мы жылі ў старой гасцініцы ў Лельчыцах. За вокнамі бярозы. Побач доўгі мост цераз туманную Убарць. Аднойчы здзейснілі паломніцтва да Цар-дуба. Паэма Міхася поўная сонечных промняў, лясных пахаў і гукаў, шчаслівых хвілін. Тады ён яшчэ не пісаў вершаў, "сумуючы аб волі". Ён жыў воляй. Гэта паэма дыхае маладосцю, здароўем. Ад яе зыходзіць святло. Дастаткова параўнаць яе з паэмай "Лілея на цёмнай вадзе", каб зразумець, што здарылася з душой паэта, з душой яго роднай Беларусі. Трагічная нота стала дамінуючай у яго творчасці. "Лілея на цёмнай вадзе" — магутны рэквіем, які павінны пачуць усе народы, каб усвядоміць, што чалавецтва задзейнічала сілы, якія здольны знішчыць усё жывое. Увага паэта скіравана на боль і горыч нашых дзён. Ён не баіцца самой Айчыне, самому народу сказаць словы дакору. Але нягледзячы на трагізм, яго паэзія нараджае ў душы чытача радасць аблягчэння. Як на споведзі пасля адпушчэння грахоў...

Так, такога паэта не чакалі, але ён прыйшоў. Таму што патрэбны часу. Падкрэсліваю: часу.

Ёсць у Аляксея Талстога выраз "дыяментная мова". Гэта мова, якая не патрабуе замены. Эталон, дасягальны нямногім. У Міхася Башлакова ёсць вершы, якія, прайшоўшы праз сэрцы людзей, застануцца. Назаву некаторыя з іх: "З лістападамі...", "Сказала маці...", "Чмель", "А над Кракавам дождждык крапае...", "Дні мае залатыя", "Завечарэла. Дымкай зацягнула...", "Зялёная восень". Яны напісаны дыяментнай мовай. Гэта не значыць, што астатнія вершы паэта горшыя. Проста ў названых характэрныя асаблівасці паэзіі Міхася Башлакова адлюстраваны найбольш выразна.

Вершы сапраўднага паэта можна слухаць з асалодай, нават не ведаючы мовы. Гармонія інтэрнацыянальная. Міхась рана засвоіў: без адзінай, дакладна знойдзенай інтанацыі няма верша. Няма інтанацыі — не выратуюць ашаламляльныя вобразы, метафары, параўнанні. Інтанацыя злучае словы ў тугую, як цеціва лука, напружаную мелодыю больш надзейна, чым любая думка. Без музычнай адоранасці няма паэта. У свядомасці нічога не затрымліваецца. Словы рассыпаюцца, як жменя пяску. Інтанацыя — гэта тая сцяжынка, па якой чытач уваходзіць у душу паэта. Сапраўднаму паэту інтанацыю падказвае Бог. Сапраўдны паэт заўсёды ідзе ад Бога, ад прыроды, а не ад улады. Ён сам мае ўладу, дадзеную яму Богам.

Паэзія Міхася Башлакова імкнецца да народнай песні, крыку журавоў, журбы жалейкі, гоману цёмнага бору. Яна нясе людзям аб'ёмны свет з усімі колерамі, гукамі і пахам роднай зямлі. Пільнае вока ў паэта. Чуйны слых. Тонка аркестравана душа. Яго вершы мне дарагія ў такой жа ступені, як вершы Роберта Бёрнса, Шандара Пецёфі, Тараса Шаўчэнкі, Гіёма Апалінэра, Федэрыка Гарсія Лоркі, Сяргея Ясеніна, Мікалая Рубцова, Паўлюка Труса...

У новай кнізе Міхася Башлакова "Пяро зязюлі падніму" талент паэта дасягнуў поўнай сталасці.

Аднойчы час, які адыходзіць назаўсёды, вырашыў узяць з сабой на памяць усё лепшае, што сустракалася на Палессі: шум сосен, крыкі журавоў, рып парома на Прыпяці, серабрыстую лілею на цёмнай вадзе, світальнае рэха, дні залатыя, рыбацкі касцёр каля Убарці, ржанне коней на лузе. Калі ўсё гэта нейкім цудам злучылася — у руках часу аказаліся кнігі паэзіі Міхася Башлакова.

**Юрый ФАТНЕЎ**

*г. Гомель*

# Знікнуць пчолы — загінуць людзі

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Мы не будзем пералічваць астатнія прадукты, якія мае меданосная пчала, думаецца, пералічанага дастаткова, каб прыйсці да пераканання аб невыпадковасці канцэнтрацыі ў пчале і вакол пчалы такога багацця жыццядайных рэчываў. Напомнім толькі, што ў Японіі гэта даўно зразумелі, даўно ацанілі і выкарысталі на практыцы ў пераадоленні наступстваў ядзернай бамбардзіроўкі Хірасімы і Нагасакі. Інтэнсіўнае скарыстанне вышэйпамянёных рэчываў дало магчымасць дабіцца таго, што працягласць жыцця людзей, што падвергліся абпраменьванню, вышэй, чым у сярэднім па Японіі. Японія сёння з'яўляецца буйнейшым імпарцёрам прадуктаў пчалярства, у тым ліку прапалісу і матачнага малачка. Кожны японец атрымлівае ад урада мэтавую грашовую датацыю на прадукты пчалярства, дзеля таго, каб спажываць гэтыя прадукты штодзённа.

Наш урад таксама актыўна выкарыстоўвае датацыйны рычаг. Датуюцца для пэўных слаёў насельніцтваў сінтэтычныя лекавыя прэпараты, праезд у транспарце, будаўніцтва жылля, датуюцца пэўныя маладзёжныя арганізацыі, датуецца, у рэшце рэшт гарэлка, бо яе кошт у параўнанні з коштам самых неабходных прадуктаў харчавання проста мізэрны.

Некалі акадэмік А. Бутлераў пісаў: "Пчалярства ўяўляе выгаду маральную. Яно мае да нейкай ступені выхаваўчае значэнне. Для таго, каб з поспехам весці пчалярства, патрэбны ўвага, акуратнасць, здагадлівасць, кемлівасць, а гэтымі якасцямі абумоўліваецца і цвярозасць. Сам народ наш, як вядома, думае і гаворыць, што ў дрэнных людзей пчолы не вядуцца".

А знакаміты польскі пчаляр доктар Ян Дзяржон пісаў: "Той, хто займаецца пчалярствам не дзеля адной выгады, хто з сапраўднай любоўю даглядае пчол і ўважліва назірае іх, той бывае амаль заўсёды добрым чалавекам, доблесным грамадзянінам і верным сябрам".

Устаноўлена, што пчолы ведаюць і пазнаюць свайго гаспадара. Гэтаксама ўстаноўлена, што калектыўны "мозг" пчалінай сям'і па колькасці нервовых клетак не ўступае, а часам і пераўзыходзіць колькасць нейронаў, што налічваюцца ў чалавечым мозгу. У публікацыі "Знайдзі ўсяму пачатак" ("ЛіМ" ад 13.04.2001 г.) мы гаварылі аб сутнасці і прызначэнні чалавечага жыцця як генератара псіхічнай энергіі. Без пастаяннай генерацыі псіхічнай энергіі не могуць развівацца эвалюцыйныя працэсы, прычым энергія патрэбна станоўчай, стваральнай якасці. Як вядома, чалавек, нават самы добры, не заўсёды прадуцыруе станоўчую псіхічную энергію. Пры злосці, сварцы, праявах сквапнасці выпраменьваецца адмоўная, разбуральная энергія. Менавіта псіхаэнергетычным фактарам тлумачыцца выраз: "У дрэнных людзей пчолы не вядуцца".

Пчаляр пры рабоце на пасецы павінен быць у добрым настроі, пажадана ў думках або ўслых прамаўляць у адрас сям'і добрыя, ласкавыя словы. Пры гэтым нервовая сістэма пчаляра выпрацоўвае станоўчую дабратворную энергетыку, якая паглынаецца пчоламі, рамкамі і сценкамі вулля. Гэта паляпшае абмен рэчываў у клетках пчол і лічынак, паскарае развіццё сям'і.

Як мы ўжо гаварылі, пчала адна з самых старажытных насельнікаў Зямлі. У выніку планетарных катастроф знікалі зямныя цывілізацыі. Чалавек разумны, надзелены правам пазнання дабра і зла, правам выбару не здолеў захаваць бясцэнную жамчужыну — жыццё. Між тым, прыток псіхічнай энергіі Вышэйшаму розуму неабходны пастаянна. І ён захаваў чалавечага дублёра па прадуцыраванні псіхічнай энергіі — пчалу, арганізаваўшы яе жыццё па прынцыпах калектывізму, роўнага ўдзелу ў работах па жыццезабеспячэнні, самаахвярнасці і каласальнай працавітасці. (Напрыклад, за час выхавання адной лічынкі пчолы наведваюць яе 10000 разоў). Усё жыццё пчалінай сям'і падпарадкавана найстражэйшай дысцыпліне. І дысцыпліна носіць у іх асаблівы характар. Пчолы працуюць не па прымусе, а таму, што інакш не могуць. Нельга не захапляцца і іх самаахвярнасцю. Уявіце сабе: зіма, пчаліная сям'я вельмі дрэнна забяспечана кармамі. Калі не абмежаваць спажыванне — да вясны не дацягнуць. І пчолы добраахвотна адмаўляюцца ад ежы, паступова гінуць ад абяссільвання, зберагаючы корм для маткі і для жменькі фізіялагічна найбольш здаровых пчол.

Кожная пчала ад нараджэння да смерці павінна прайсці ўсе стадыі прафесійнай спецыялізацыі. Чысцяць, саграваюць або ахалоджваюць гняздо, ахоўваюць гняздо, будуюць соты, выкормліваюць расплод, кормяць і чысцяць матку, прыносяць нектар, пыльцу, прапаліс, ваду, фарміруюць запасы корму, заклейваюць прапалісам дзіркі, робяць разведку запасаў нектару, мабілізуюць другіх пчол на іх збор і г. д. Інстынктыўна-фізіялагічныя законы спрацоўваюць бездакорна, і гэта забяспечвае выжыванне віду. Да нядаўнага часу лічылася, што рэгуляцыя ўзаемаадносін у вуллі абмяжоўваецца сілай інстынкту. Але вельмі часта паводзіны пчол не ўкладваюцца ў тлумачэнні інстынкту і фізіялагічнага ўзросту.

Так, пчолы каўказскай пароды вызначаюцца тым, што запячатваюць мёд так званай "мокрай пячаткай". Карпацкія пчолы — вызначаюцца беласнежнай "сухой пячаткай". У каўказскую сям'ю падсадзілі матку карпацкай пароды. Пакаленне пчол змянілася, на змену каўказянкам прыйшлі чыстапародныя карпацкія пчолы, а пячатка засталася "мокрай". Хто і калі навучыў іх гэта рабіць?

Вядомы выпадак, калі рой, злоўлены ў лесе на пэўнай елцы, на працягу некалькіх наступных пакаленняў упарта злятаў з вулля менавіта на гэтае месца. Якая сіла штурхала пчол?

Вядома шмат сведчанняў таго, што пчолы выпраменьваюць нешта, што аздараўляльна ўздзейнічае на чалавека і захоўваецца ў вадзе і крэмах. Наяўнасць гэтага выпраменьвання можна ўстанавіць пры дапамозе маятніка, рамкі, або сырой драўлянай вілкі на адлегласці да 30 метраў ад пасекі. Вось даставернае сведчанне пчаляра-даследчыка.

*(Працяг на стар. 15)*

**ВІНШУЕМ!**

***Вядомаму беларускаму пісьменніку, публіцысту і грамадскаму дзеячу Васілю ЯКАВЕНКУ 5 мая спаўняецца 65 гадоў. Яго пяру належаць шматлікія творы сацыяльна-вострай мастацкай публіцыстыкі і дакументальнай прозы, якія склалі кнігі "Зямля, адкрытая намі", "Дарога цераз гаць", "Пакуль сонца ў зеніце", "Другой зямлі не будзе", "Вясковыя дыспуты", "Дайсці да ладу". Працаваў ён і ў жанры драмы. Напісаў казкі для дзяцей і дарослых — "Смяльчак Лузь", "Чорная ружа". Працуе над гістарычным раманам "Надлом".***

***Друкуючы апавяданне пісьменніка "Скруха" аб гістарычнай мінуўшчыне, рэдакцыя штотыднёвіка "ЛіМ" віншуе Васіля Цімафеевіча з 65-годдзем і жадае яму здароўя, творчых удач і творчага плёну.***

Васіль ЯКАВЕНКА

# СКРУХА

АПАВЯДАННЕ



Ліпавая алея вяла да варот маёнтка. Кроны дрэў так паразрасталіся на волі, што стваралася ўражанне суцэльнага зялёнага калідора, трохі парудзелага, праўда, ды не менш прыгожага ўвосень, па якім чалавек ехаў, пачуваючы на сэрцы палёгку ад таго, што ў старой вячыстай алеі, дзе вольна пырхалі птушкі, завяршаўся ягоны шлях да знаных паноў.

Кожная апора варот уяўляла сабой высокі чатырохгранны слуп з каменным шарам наверсе, а пры тым слупе — карацейшыя, па два з кожнага боку.

Вароты былі адчынены, і Пятро Рамановіч (тут ягоным прозвішчам Пісарчук менш карысталіся) укаціў на роварах у двор пры палацы. Злева стаяла капліца, а па правую руку, за дрэвамі і дэкаратыўнымі кустамі, хаваліся гаспадарчыя будыніны.

Ён мінуў шырокі, як скінуць вокам, газон з кветкамі, і перад ім адкрыўся палац, які быў збудаваны і абжыты Сымонам Скірмунтам напрыканцы XVIII стагоддзя; месціўся ён непадалёку ад старога двара Агінскіх. Увогуле тут каранілася свая гісторыя, і, усведамляючы гэта, Пятро Раманавіч, нашчадак духу і велічы літвінскай зямлі, зараз перажываў непакой і хваляванне. Думалася: нешта ж павінна рабіцца з таго, што рабілася, інакш які сэнс быў лучыцца ў адзінай грамадзянскай супольнасці, у адзінай дзяржаве, сеяць, жаць, ствараць штось адмысловае ў архітэктуры, мастацтве, несці ў свет самавітасць? Усё, што пасеена тымі стагоддзямі, павінна б узысці, праклюнуцца нават праз мур, як праклёўваюцца парасткі на ўтоптанай глебе. Адно каб не войны і гвалт над народам!

А царкоўныя метрычныя запісы сведчылі, што ў XVI-XVIII стагоддзях у Моладаве гнездаваў слынны ў Вялікім Княстве род Войнаў. Потым, як Вайнаўчанка Элеанора зайшла замуж за Казіміра Агінскага, каля стагоддзя маёнткі Моладава і Парэчча належалі роду Агінскіх. Але Агінскія наварочваліся ў сваю абладу толькі час ад часу, што не дазваляла ім як след чыніць справы на месцы, і Міхал Клеафас Агінскі, вядомы музыка, кампазітар, апошні з гэтага роду ўладар моладаўскага і парэцкага маёнткаў, абцяжараны гаспадарчымі клопатамі, прадаў іх урэшце, разам з зямлёй, Сымону Скірмунту. От той Сымон, маршал Брэсцкай зямлі і павета Пінскага, пасол сейма ў Рэчы Паспалітай, будучы ў шлюбе з Елізаветай Ажэшкай, даў новую галіну генеалагічнага дрэва Скірмунтаў. Сымон умеў гаспадарыць і абнавіў землябробства, пасадзіў дрэвы на пясчанай глебе і пустках, пачаў закладваць парк.

Ягоны белы палац меў адмысловыя формы. Гэта быў падоўжаны прамавугольнік у адзін паверх, пасаджаны на высокія цокальныя лёхі. Казалі, што ён адпавядаў стылю ампір. Пятро Рамановіч, дарма што з сялян, уважаючы на добрую славу і гонар моладаўскіх уладароў, грунтоўна ведаў іх радавод.

Цяпер над чатырохскатным дахам палаца, крытым ацынкаванай бляхай, узвышаліся каміны, з двух камінаў курыліся ледзь прыкметныя дымкі і раставаліся ў паветры.

Сонца хілілася на той бок палаца, яно час ад часу хавалася за шэрай, напаўпразрыстай навалаччу ў небе, і тады на прастору двара падалі і беглі кудысь кудлатыя мітуслівыя цені.

Пакінуўшы за спіной зялёны газон, Пятро ўзняўся па прыступках на тэрасу, упрыгожаную чыгуннай дэкаратыўнай агарожкай. З тэрасы быў цэнтральны ўваход. Прыхінуўшы да калон веласіпед, госць хвіліну пастаяў, пераводзячы дыханне: заставаўся апошні крок, каб пастукацца ў панскія дзверы, і тут ён заўсёды пераадольваў сваё хваляванне.

Сцяну палаца аздаблялі барэльефныя гірлянды над вокнамі. Яны ўвасаблялі сабой кветкі, перавязаныя стужкай. Дзве пары белых калон стаялі на цэнтральным ганку. Яны падпіралі прыдашак з трохкутным шчытом, на якім былі змешчаны гербы: родавы "Дуб" Скірмунтаў і родавы "Кораб" Ажэшкаў. У гербах жыла памяць і павага да продкаў, сіла і сямейная моц.

За калонамі на сцяне, вышэй дзвярэй, быў вымураваны круглы медальён з ініцыяламі заснавальнікаў палаца.

Госць зняў з галавы лёгкі капялюш — няйначай, з пашаны да гэтага медальёна. Але не паспеў ён пацягнуць за нітку званка, як дзверы адчыніліся і перад ім паўстала пані Марыя — гаспадыня, сястра Канстанціна і Генрыка Скірмунтаў; яны жылі разам, прычым ніхто з іх не меў сваёй уласнай сям'і, што нямала дзівіла Пятра, прызвычаенага да народных і сямейных традыцый.

—Дзень добры! Які гонар: сама пані ласкава сустрэла мяне.

—Так, я была тут, — кіўнула на сені. — Я заўважыла вас у акно... Прошу мондрага госця праходзіць далей.

У голасе важнай кабеты з прывялым напамажаным тварам прагучала штосьці гарэзлівае і трошкі як кплівае нават

—Пані Марыя смяецца з мяне, называючы мондрым?

—О не, ніколечкі! — сумныя і адначасова жывыя вочы пажылой Скірмунцянкі ўважліва вывучалі яго, таму Пятро на момант адчуў сябе нехлямяжа.

—А я вам скажу, — казала далей пані Марыя. — На тым тыдні, калі вы ў нас былі, пан Канстанты меў задавальненне зазначыць: "Не панскага паходжання ягоная мосць, а іншы пан яму пазайздросціць! Чаму? Далягае да ксёнжак. Сваім розумам дастае да глыбіняў жыцця і гісторыі продкаў. Мондры. Дбайна вядзе гаспадарку".

—Хвала Богу і дзякуй васпану!..

—Што, аднак, вас прывяло да нас цяпер?

—А ўсё тое ж: трывога, няпэўнасць...

—Я вас правяду ў белы салон, дзе вы і пачакаеце крыху, пакуль я знайду пана Канстанты. Добжа?

—Але ж.

І яны разам прайшлі шырокім калідорам, дзе была высокая столь і сцены ў светлых танах, дзе на сценах віселі рогі ласёў і аленяў, а ў кутку стаяў прыгожы сундук, завезены сюды разам з іншай мэбляй з Італіі. Дзверы з правага боку вялі ў сталовую залу, і там стаяў вялікі дубовы стол, упрыгожаны разьбой, ды адпаведныя яму буфеты з дуба.

Яны павярнулі налева і праз колькі крокаў адчынілі шыкоўныя дзверы з барэльефам на лакаваных панелях, з разьбой і пазалотай, увайшлі ў вялікую залу, дзе светла-крэмавыя сцены ўвенчваліся купалам столі. Святло трапляла сюды праз чатыры акны і залівала ўсю пакаёвую прастору. У гэтай зале было трое дзвярэй, з якіх адны выводзілі на садовую тэрасу, другія — у бібліятэку. Яны павярнулі зноў налева да трэціх дзвярэй, і, расчыніўшы іх, пані паказала на крэсла:

—Прошу, адпачніце.

Тут, у белым пакоі, як і ў іншых, Пятру ўжо даводзілася бываць. Два вакны, паркетная падлога, камін, бронзавая люстра з крыштальным абажурам, пісьмовы стол, вялікае люстэрка між вокнамі ў пазалочанай ракакокавай, так пан казаў, аправе. Цераз калідор сюды даносілася ціхая і журлівая музыка, удавала, што хтось самотны іграе на піяніна, мажліва — пан Генрык.

Уважаючы на ўтульную з пазалотай прастору пакоя, Пятро падумаў, што і гэтаму бляску пагражае вайна. Вайна пагражае палацу, як і Пятровай сядзібе, як і ўсяму свету, бо ніхто і нішто ад яе не застрахуецца.

Як мала значыць цяпер чалавек — ці то мужык, ці пан! Прыкладам — тая сусветная вайна, калі ўсё гарэла, бурылася, і немцы вывезлі з Парэчча ў Германію абсталяванне суконнай фабрыкі; усё, што было там, панішчылі, і больш не адрадзілася вытворчасць сукна, а яно ж на розных усерасійскіх і сусветных выставах неаднойчы атрымлівала сярэбраныя ды залатыя медалі.

Невядома чаму, але настрой, з якім Пятро ехаў сюды, пачаў псавацца; унутраны голас падказваў яму, што ў гэтай адрэзанай ад свету глухамані паны ведаюць мала чаго больш ад яго, дарма што пан Канстанцін, або Канстанты, як яго клічуць у гэтым будынку, — былы дыпламат і паплечнік Пілсудскага. Ды вось і ён сам падкаціў на калясцы — прыслуга адчыняла яму дзверы.

—Вітаю госця!

Збянтэжаны госць паспяшаўся насустрач, каб пацiснуць працягнутую яму руку, мяккую і, тым не менш, энергічную.

Пятро ведаў, што ў пана пасля нейкай хваробы засталася анямелай нага. Аднак, нягледзячы на гэта, ён захаваў добрую форму, жвавасць, настрой і, каб не серабро на галаве, ніколі б не даў яму 72 гады.

—Пані Марыя сказала, што вы край анепакоены нечым. Што здарылася?

—Уласна, нічога, і я прашу прабачэння ў пана за частыя візітаванні.

—Ну што вы, што вы! Хай гэта не бянтэжыць вас! — Вялікія шэрыя вочы спанатранага ў палітыцы чалавека праменілі прыязнасць. — А вы прыехалі якраз дарэчы, паколькі ў нас бавіць час мой стрыечны брат, а ваш прыяцель, як я разумею, Раман Скірмунт.

—Што вы кажаце! — абрадаваўся Рамановіч, хоць той Скірмунт, калі і быў ягоным прыяцелем, то чыста ўмоўна; яшчэ варта зазначыць, што з-за разыходжанняў з братам у палітычных поглядах на Беларусь і ролю Польшчы ў свеце памешчык Скірмунт з Парэчча рэдка наведваўся ў Моладава да сваёй радзіны, хоць жылі яны, лічы, побач. І от цяпер ён быў тут.

Яны прайшлі з белага салона ў вялікую залу. Пан Канстанцін, нязмушана і спрытна перабіраючы рукамі абадок пры колах, вёў госця ў бібліятэку. Пятро, ідучы за ім, быў удзячны лёсу, які падараваў яму гэты момант.

На пане дыпламаце быў выдатны шэры з сінаватым адлівам касцюм і гальштук у тон. Усё адпавядала добраму густу, ён быў пры парадзе.

Нарэшце, новыя шыкоўныя дзверы і прасторны пакой, абсталяваны адмысловай мэбляю з чорнага дуба. Пан Канстанцін прапусціў госця паперадзе сябе; насустрач ім падняліся з крэслаў двое: сіваваты, моцны ў касці, жвавы мужчына з вусамі — па авале твару і вострым пранізлівым позірку з-пад цёмных броваў Пятро прызнаў у ім Рамана Скірмунта, з якім даўней сустракаўся, а другі пан — тутэйшы — родны брат Канстанціна — Генрык, таксама ў веку, але яшчэ не страціў цёмнага колеру валасоў.

Прывіталіся і спаважна пачалі рассаджвацца. Парэчанец Раман сеў на крэсла, пакрытае чырвоным матэрыялам. На другое чырвонае крэсла пан Канстанцін паказаў госцю з Моталя. Астатнія крэслы былі пакрыты англійскім узорчатым паркалем.

—Даўно, шаноўны гаспадар, мы з табой не бачыліся, — сказаў памешчык Скірмунт Пятру. — Помню сына твайго. Гожы хлопец, шляхцюком трымаўся, яго непакоіла сацыяльнае і палітычнае становішча люду паспалітага. Дзе ён цяпер?

—Гэта мой старэйшы, Барыс. Ён цяпер у войску і, напэўна, удзельнічаў у абароне Варшавы. Таму і баліць мая душа.

—Не абаранілі Варшаву! — з нечаканай горыччу выказаўся пан Канстанцін. — Я маю весткі, што ўрад пакінуў сталіцу яшчэ да яе абароны. Інакш кажучы, ганебна рэціраваўся, і гэта быў нядобры знак. — І з горыччу ўздыхнуў: — Прападзе польскі люд без Пілсудскага!

Раман прыжмурыў вочы і злёгку пабарабаніў пальцамі па стале:

—Я не аспрэчваю ваяўнічасці пана Пілсудскага. Мір праху яго! Але ж хіба не ён заключыў у 34-м годзе пагадненне з Гітлерам аб мірным вырашэнні спрэчак?

—Дапусцім, ён. І, дапусцім, у сваіх разліках мы зрабілі памылку.

—А Польшчы здрадзілі не толькі Гітлер, але і іншыя яе саюзнікі — Англія, Францыя. Дзе іхнія войскі? — паставіў рубам пытанне Генрык, хоць, па сутнасці, гучала яно рытарычна.

Пятро Рамановіч з цікаўнасцю слухаў братоў. Падобныя сентэнцыі цяпер гучалі, бадай, па ўсёй Польшчы. Гутарку доўжыў Раман Скірмунт:

—Уся справа ў тым, што Юзэф Пілсудскі не мог не зрабіць памылкі, грунтуючыся на сваёй удаўнелай ідэі-мары, а іменна — асобай місіі Польшчы на ўсходзе Еўропы. Я ж памятаю ягоныя планы ў 19-м годзе завяваць Расію і стварыць максімальна шырокую федэрацыю пад гегемоніяй Польшчы, маўляў, польскі жаўнер будзе падаваць руку японскаму жаўнеру! Дык чым жа ў гэтых захопніцкіх планах ён лепшы ад Гітлера? Я помню і тое, што ён казаў: "У так званай Беларусі будзе альбо польскасць, альбо расійскасць". Чаму, ну чаму, дазвольце спытаць, га? На тых жа падставах нехта можа сцвярджаць і, напэўна, сцвярджае, што так званая Польшча павінна быць або расійскай, або германскай. Зноў жа, чаму?.. Што, беларускі народ — не народ? Або ён не меў і не мае сваёй культуры? Не меў Вялікага Княства, дзе культура і права былі на ўзор для ўсёй астатняй Еўропы?.. Вы паглядзіце на Вільню, сталіцу Княства, — якія выштукаваны гмахі, палацы, які парад вуліц! Панове Скірмунты! — з немалой доляй патэтыкі звярнуўся Раман да братоў. — Вы сёння польскія дзеячы, польская костка! А было ж інакш. У 16—17 стагоддзях наш род гаварыў на той мове, на якой Сапега пісаў Статут Вялікага Княства Літоўскага. Паглядзіце: чым не фатальнае супадзенне?

Мова Статута — тая ж мова, якой і цяпер народ карыстаецца. На гэтай мове Янка Купала піша свае душэўныя вершы. — І ён прадэкламаваў:

***Невясёлая старонка***
***Наша Беларусь:***
***Людзі — Янка ды Сымонка,***
***Птушкі — дрозд ды гусь.***

Або яшчэ з таго, што мне даводзілася чытаць раней:

***Праз што плачаш, мужычок?***
***— Праз людзей і неба.***
***Чаго хочаш, мужычок?***
***— Трохі солі, хлеба.***

—Між іншым, — доўжыў размову Раман Скірмунт, — Пілсудскаму, Гітлеру ды, бадай што, і Сталіну законы не пісаны. Але, калі ўважаць хоць на нейкую культуру і элементарную логіку, то дзе яны ў такой палітычнай заяве: у Беларусі павінна быць альбо польскасць, альбо расійскасць? Глум над светам, не болей!..

Расхваляваны Раман устаў і пачаў хадзіць між крэсламі. Канстанцін маўчаў, быў як азадачаны эскападай стрыечнага брата. Падаў голас Генрык:

— Але ж я выхаваны на польскай культуры...

—Правільна! І я ўзгадаваны ў польскай культуры, але не ўважаю сябе за паляка. Я даўно ўжо казаў людзям пра гэта. Я не маю найменшай патрэбы залічваць сябе да народнасці, з якой лучыць толькі культура, тым больш навязаная сілай пры пэўных абставінах.

—Рамане! — звярнуўся да яго Канстанцін. — Не гарачыся, калі ласка, і не гневайся — жыццё, лічы, пражыта. І пражыта яно намі па-рознаму. Што зробіш?

—Костусь, усё гэта так. Але ж мы селі за гэты стол, каб асэнсаваць штоколечы. Ты служыў рэжыму, які бачыў сваю асобую місію на ўсходзе ў тым, каб каланізаваць народы, і ў першую чаргу нас, беларусаў, ды распаўсюджваць польскасць. Царызм таксама бачыў свае вялікадзяржаўныя інтарэсы ў тым, каб душыць палякаў, беларусаў,

*(Працяг на стар. 15)*

## Заграйма вальс Касцюшкі?




**А можна сыграць і Касцюшкаў "Паланез". Або адзін з кантрадансаў В. Казлоўскага. Або прэлюдыі Я. Голанда... Выбар ёсць: пад агульнай вокладкай змешчана восем нумароў. А называецца гэты новы нотны зборнік — "Фартэпіянная музыка Беларусі XVIII стагоддзя".**

**Выданне ажыццёўлена пад эгідай Міністэрства культуры, Беларускай акадэміі музыкі (Праблемнай навукова-даследчай лабараторыі музыкі). Склалі зборнік вядомая даследчыца старадаўняй айчыннай музычнай культуры дацэнт Вольга Дадзіёмава і знаны артыст, дацэнт кафедры спецыяльнага фартэпіяна Уладзімір Дулаў (ён жа зрабіў выканальніцкую рэдакцыю і метадычныя каментарыі).**

**Дзякуючы найперш пошукам В. Дадзіёмавай з'явілася мажлівасць надрукаваць нізку фартэпіянных п'ес М. Радзівіла, Я. Дусіка, Э. Ванжуры, іншых кампазітараў, якія працавалі на Беларусі ў XVIII стагоддзі. Прычым, ноты, прадстаўленыя ў новым выданні, публікуюцца на Беларусі ўпершыню. Безумоўна, гэта каштоўнае свежае папаўненне нацыянальнага педагагічнага рэпертуару, доўгачаканая альтэрнатыва застарэлым стэрэатыпам у навучанні маладых піяністаў. Але выданне зусім слушна рэкамендавана не толькі ў якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў спецыяльных навучальных устаноў культуры і мастацтва. Гэта яшчэ і сапраўдная хрэстаматыя па гісторыі беларускай музыкі.**

**На добры лад, зборнік мог бы зрабіцца "настольным сшыткам" у кожнай сям'і, дзе ёсць інструмент і ёсць аматары немудрагелістага хатняга грання. Ды, на жаль, наклад новага выдання — толькі 300 асобнікаў. Вывучайце ды грайце! Толькі спачатку паспрабуйце здабыць ноты...**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## Адзначыў саракавы юбілей

**У Брэсцкім музеі "Выратаваныя мастацкія каштоўнасці" адбылася выстава Ігара Сміціенкі. Імя яго вядома пакуль што сярод спецыялістаў. У Брэсце Ігар жыве апошнія пяць год, пераехаў сюды з Санкт-Пецярбурга да жонкі-брэстаўчанкі. Выкладае малюнак і жывапіс у Дзяржаўным тэхнічным універсітэце на кафедры архітэктуры.**

**І. Сміціенка займаецца акварэллю, афортам, літаграфіяй, цікавіцца жывапісам. Яму ўласціва вытанчанасць пісьма, мяккасць ліній, колеравае рашэнне.**

**Родам Ігар з казахстанскага горада Кустанай, з сям'і авіятараў. Бацькі не сумняваліся, што хлопчык будзе лётчыкам. Але Ігара паклікала не сіняе неба, а рознакаляровасць фарбаў. Ён скончыў два мастацкія вучылішчы, Расійскую акадэмію мастацтваў імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбургу. Стажыраваўся ў Кракаўскай акадэміі мастацтваў. Яго творчасць фарміравалася пад уплывам рэалістычнай школы. І. Сміціенка шмат выстаўляўся — у Расіі, Чэхіі, Францыі, Швецыі, Беларусі. Выставу ў Брэсце можна лічыць юбілейнай — сябру Саюза мастакоў Расіі і Беларусі І. Сміціенку споўнілася сорак год.**

**Алена КАПАЧОВА**

# ГОД 1341. ЯК ТАЦЬ У НАЧЫ...

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9)*

Ды агледзеўшы зброю, князь заўважыў, што на дзяржальні, якраз насупраць сярэбранае выявы дзяўчыны, прымацаваны да ясеневага дрэўка праваслаўны крыж, таксама з серабра.

— Хто ж тое сатварыў?

Усю віну ўзяў на сябе Цімафей, маўляў, не дагледзеў, а зрабіць тое мог любы з хрысціян, паноў-рады — але адразу здагадаўся Альгерд, што не скарбнік тут і не хтосьці з паноў-рады вінаватыя і, прыпёршы слугу да сцяны, выпытаў усё. Выпетраны тым допытам дашчэнту, Цімафей выходзіў з княжае лажніцы і застрашаны, і захоплены адначасна — мудры, як змій, ягоны валадар! Такая слава аб ім ідзе недарэмна, кажуць, што і пад зямлёй бачыць ён, хаця, вядома, не можа параўнацца з вешчуном Усяславам Чарадзеем, колішнім уладаром гэтае зямлі. І, задаволены тым, што ўсё ж свой, тутэйшы князь больш мудры, чым прымак Альгерд, які прыйшоў на гэтае княжанне па жонцы, доўга піў моцную медавуху Сосень, у хрысціянстве Цімафей, а пасля бухнуўся на калені перад божышчам Вялесам і падзякаваў за шчаслівае выратаванне ад страшнага гневу валадара.

Альгерд жа загадаў павесіць дзіду на сцяне ля свайго ложа. На двух узорыстых кручках ляжала яна, і ранічай, калі ўзыходзіла сонца і падала першым промнем на сярэбраную дзявочую постаць каля дзяржальна, нешта зварушліва тоўхалася ў грудзях князя, і ён са здзіўленнем адчуваў, што дзень для яго рабіўся нібыта лягчэйшым — не так ныла плячо, не торгалася нешта ў вуху, аддаючыся ў скронь з пасівелымі і ўжо парадзелымі пасмамі русявых валасоў. Спраў было шмат — ваявода па загадзе князя спадчышка, але надта паспешліва рыхтаваў войска для паходу на Вільню. Перавага ў сіле дапаможа ў справе дзяржаўнай. Слабага не прызнаюць ні браты, ні народ.

За два тыдні да Грамніц Альгерд атрымаў доўгачаканы ліст ад Кейстута. Брат пісаў, што ён гатовы ісці на Вільню, каб адабраць уладу ў недастойнага яе Яўнута, апавядаў пра колькасць вояў, якіх ён паведзе ў сталіцу. Але не было на пергаміне галоўнага — каму ж быць вялікім князем. Не напісаў пра тое Кейстут. І, заседзеўшыся ў тую ноч над лістом, стараючыся між радкоў адгадаць, што думае на самай справе брат — ці дапамагчы, ці заманіць у Вільню, каб лягчэй расправіцца з магчымым сапернікам — не заўважыў князь, што звонку цікуе за ім чужое вока, зазірае ў шчыліну між цяжкімі завесамі, чакаючы свайго часу.

Калі лёг спаць, прытомлены, заснуў амаль імгненна. Аднак нешта ў ім, чуйнае і сцярожкае, адразу ж абудзілася, калі коратка цэнькнулі ля вакна ахоўныя бронзавыя бразготкі, павешаныя вялікім жрацом Вялеса. Такія ж бразготкі былі і над ягоным ложам, але, ціха працягваючы руку да дзіды, што вісела над правым плячом, не закрануў іх князь, і таму той, хто на дыбачках падышоў да ложа і коратка, але са страшнай сілай узмахнуў мячом над князем, не чакаў ніякага супраціўлення. Аднак, зверам ускочыўшы з ложа, паспеў Альгерд перахапіць дзіду абедзьвюма рукамі і выставіць яе паперадзе сябе. Удар амаль рассек моцнае ясеневае дрэўка, аднак, перахапіўшы тую частку, на якой трымалася наверша, князь з усяе сілы ткнуў ім у ворага. Нягледзячы на цемру, ён трапіў прама ў горла нападальніку, і той, страшна захрыпеўшы, пачаў асядаць на падлогу.

На крык Альгерда амаль імгненна ў пакой ўляцела варта са смалякамі і мячамі, па калідоры пратупацела падмога. Пакой напоўніўся воямі з баявой пляцоўкі — забарала, што месцілася на гародні паблізу брамы, заспяваў горан — веснік трывогі.

Князь, у расхрыстанай кашулі, з матузком, на якім матляліся вакол шыі кудмені — жоўтыя шкляныя пацеркі, — глядзеў сабе пад ногі. Няўдалы забойца — малады, валасаты дзяцюк з шырокімі грудзямі, каратканогі, са скажоным ад пякельнай мукі тварам, курчыўся ў апошніх сутаргах, спрабуючы ўхапіць паветра, якое ўжо не праходзіла ў яго перарэзанае навершам горла, што захлыналася ўласнай крывёй і хрыпела нешта невыразнае, не зразумелае нікому.

— Кім ты пасланы? — каторы раз пытаўся Альгерд, але дзяцюк нічога не казаў, адно кароткія ногі яго торгаліся і торгаліся, як бы шукаючы апоры, але не знаходзілі яе, і вырачаныя вочы засцілала добра знаёмая князю смуга: так глядзяць тыя, хто бачыць перад сабою багіню смерці Мару і каму яна злавесна ўсміхаецца, ласкава агладжваючы нябогу перад тым, як апошні раз ахінуць яго сваім страшным чорным крылом.

— Абшукайце яго!

Варта кінулася тармасіць забойцу, але, апроч паса з магалейкай, дзе ляжаў крэмень і ножычак, якім дзяцюк, відавочна, выняў шкло з аконнае рамы, каб улезці ў лажніцу, у яго нічога не было. Па медальёне ж — змеевіку на грудзях, які знайшлі пад каптанам, таксама нельга было вызначыць, хто і адкуль гэты гіцаль, што здолеў ашукаць варту і, нягледзячы на ахову, ускараскацца наверх, да пакояў князя. І воі, якія прыбеглі сюды, апускалі галовы ўсё ніжэй і ніжэй. А камандзір варты — статны, магутны пахолак у кальчузе, з баявым склюдам-сякерай, прымацаванай да тоўстага скуранога паса з бронзавымі пласцінкамі-акоўкамі, стаяў як закамянелы, толькі шырокія, цёмныя амаль бяскроўныя вусны яго ўвесь час варушыліся, нібы ён , як і забойца, хацеў нешта вымавіць і не мог. У сонных вачах мільгацелі падземныя вязніцы, дзе да магутных колцаў у сцяне прыкоўвалі вінаватых, якія ўсё астатняе жыццё атрымлівалі толькі хлеб ды ваду і прасілі смерці, ды не мелі нават яе. І прыгажуня-сінявочка Раска, з распушчанымі па ружова-малочных плячах бялявымі валасамі, мяккая і разамлела-цёплая пасля грэшнай ночы, цяпер аддалялася, аддалялася ад яго, усміхалася камусьці іншаму за ягонай спіной. Таму ён лупіў вочы на Альгерда, але і скрозь яго, а князь, паволі наліваючыся пякельным, страшным гневам, таксама глядзеў на пахолка.

— Пра што ж ты думаў сёння на варце? — злавесна—ціха запытаўся ён.

— І пахолак, нібы высунуўшыся на імгненне з каменнай глыбы, у якую яго жывога ўжо нібы замуроўваў позірк князя, адказаў нечакана для сябе:

— Пра яе, Раску.

— Якую Раску!?

— Віслену, нашу, віцьбескую.

— Чаго ж ты думаў пра яе, калі яна віслена, гуляшчая? — усё гэтак жа злавесна-спакойна, нібы мяккай, нячутнай рыссю падбіраючыся да няшчаснага, кпіў валадар.

І галоўны вартаўнік, адчайна, нібы кідаючыся з высокага паверха ўніз, у цёмна-бурлівую Дзвіну, выбухнуў:

— Кахаю яе, змяю, а яна замуж не хоча!

Вырачаныя вочы пахолка не мігалі, погляд быў шкляны і няўцямны. Князь глыбока ўздыхнуў, набіраючы паветра, каб аддаць смяротны загад і тым абараваць гэтае жыццё, таму што не пакараная віна цягне за сабой іншыя і іншых. Але погляд яго спыніўся на верхняй частцы дзіды, што валялася побач з забойцам, які зацях і болей не хрыпеў, вусеніцай скурчыўшыся ля ягоных бос ног. Гнеў яго сціх — сярэбраная постаць на дзяржальне нібыта прасіла аб нечым. Узамен навалілася цяжкая, як стопудовая, стома.

— Ідзіце. — коратка кінуў усім.

— У гэтую хвілю ў лажніцу ўбеглі сыны, усе пяцёра. Наперадзе — старэйшы, пятнаццацігадовы Андрэй, за ім — Уладзімір, Дзмітры, Канстанцін, Хведар. Танклявы, з доўгімі, да плеч, валасамі, выліты ў бацьку Андрэй кінуў позірк на забойцу, здрыгануўся, парывіста абняў князя:

— Дзякуй Госпаду, ты жывы, тата!

Уладзімір, моцны, каржакаваты падлетак, сарамліва трымаўся ззаду за братам, яго круглыя вочы прагна лавілі ўсё навокал — меч на падлозе, прычыненае вакно, з якога свістаў вецер з Дзвіны і якое са скрыпам зачыняў стольнік Верабей, лужыну крыві пад няўдалым забойцам, якая чарнела на вачах. Малодшыя ж глядзелі на кроў з жахам, у Хведара дробна трэсліся рукі. Начальнік вiжоў Няжыла ціхім пошаптам загадваў двум сваім слугам вынесці цела забітага ў лядоўню, каб тут жа пачаць свой вышук, адкуль узяўся і кім быў пасланы чалавек, які разварушыў увесь замак, як мурашнік. Сапраўды, у гэты позні час паўсюдна гарэлі вокны, да замка беглі разбуджаныя сігналам трывогі гараджане, скрозь браму праехалі першыя з паноў-рады, па якіх адразу ж паслаў ваявода.

Марыя ўвайшла з тварам, на якім не было ні крывінкі, аднак заўважыць тое мог толькі сам Альгерд. Дочкі, як паслухмяныя качкі, беглі за ёю, але яна не пусціла іх у лажніцу, пакінуўшы ў калідоры на нянек, спачатку зайшла сама. Шчокі яе палымнелі штучным румянкам, намітка акуратна абвівала пасівелыя валасы, сукня на поўнай, трохі ўжо грузнай постаці была без ніводнае зморшчынкі. Толькі ў вачах бліскалі сполах і крыўда. Ён разумеў яе — не раз прасіла ўзмоцніць варту, ды і не жадала класціся ў асобнай лажніцы, як рабіў тое апошнімі гадамі князь, спасылаючыся на тое, што не хоча будзіць яе начамі. Яна паспяшалася да Альгерда, абняла яго, але паспела ўсё ж шапнуць:

— Была б я тут

Не дагаварыла. І так усё было зразумела — яна б дагледзела, пачула смяротэльны скрыгат ляза па стаўні, калі б была побач з мужам. Той звычайна спіць моцным сном стамлёнага дашчэнту чалавека, яна ж, бывае, толькі заплюшчыць вочы — і зноў чуйна слухае, як з шалясценнем дрэваў, скрыгатаннем лодзій на Дзвіне, галасамі вартавых плыве ноч над Віцьбескам, дарагім горадам, які яна прынесла ў пасаг свайму дужа разумнаму, але часам такому неабачліваму ў самых простых рэчах мужчыну...

Калі выйшлі вартавыя, Няжыла сам агледзеў вакно і патлумачыў, што зашчэпы былі амаль перакусаныя абцугамі яшчэ днём, таму так лёгка былі зняты простым нажом. Але як магло адбыцца тое? Варта не сыходзіць з забаралаў, кожнага, хто падыходзіць ці пад'язджае да замка, можна лёгка ўбачыць з вышыні. Хутчэй за ўсё, дзейнічаў нехта з тых, хто служыць у замку і чые дзеянні не выглядалі для варты дзіўнымі — можа, нехта з муралеяў, са стольнікаў ці пакаёвых жанчын. Нікога не стануць абмінаць увагай галоўны віж і ваявода, патаемна праверацъ і родзічаў: ці не ездзіць хто часцяком у ганзейскія гарады альбо туды, дзе жывуць браты князя — Слонім, Кернаў, Навагародак, Луцк, у тую ж Вільню?

Альгерд не застаўся ў лажніцы. Загадаў сямейнікам ісці ў свае пакоі, а сам распарадзіўся пасцаць яму ў бакавой , самай высокай у замку святліцы, якая выходзіла на Дзвіну і адкуль добра нават зараз, сярод начы, бачылася асветленая смалякамі царква Дабравешчання, купецкія падвор"і, прыстань, дзе ўлетку заўсёды гайдаліся стругі, вялікія камягі і даўблёнкі, што прыходзілі ў Віцьбеск з Рыгі, Любека, Кіева і везлі тавары як з усходніх—Візантыі, Венецыі і Сірыі, так і заходніх краін.

Княгіня праводзіла яго ў святліцу, загадаўшы нянькам прынесці пуховую пярыну і сама ўзбіўшы падушкі. Відаць, чакала, што ён пакіне яе тут.

Неахвотна выходзячы, з дакорам прамовіла:

— Не твая паганская дзеўка цябе выратавала, а крыж. Ты ж здагадаўся, што гэта я аб ім загадала?

— Няўжо ж не!

— Чаму ж ні слова не сказаў? А я чакала. Хітры ты, князь, ох які хітры! Ніколі не скажаш, што думаеш.

— Нашто гаварыць, Марыя? І я чакаў, пакуль ты першаю раскажаш, як асмелілася насуперак маёй волі ісці.

Яна гнеўна выпрасталася, горача загаварыла. Румянак на шчоках пагусцеў, паступова заліваючы ўвесь твар.

— Твае жыццё — гэта не толькі тваё, але і наша. Ці я не клялася перад святой Багародзіцай, што буду дзяліць з табой усё да самай смерці? Бачу, што ніяк не прыйдзеш ты да Хрыста, паважаеш усё

сваё, паганскае, упадобіўшыся чэрні віцьбескай. За тое яна цябе і любіць. А я перад панамі–радай апраўдваюся, падарункамі іх задорваю, колькіх дзяцей хроснай маткай была, каб яны за цябе сталі!

Ён падышоў, моўчкі абняў жонку і прытуліў да сябе. Ад яе пахла коленскай вадой, духмяным дымам ядлоўцу – відаць, перад сном грэлася ля кафлянай печы. З сумам падумаў, што, мабыць, і праўда аддаліў яе ад сябе, заняты справамі горада і княства, апошнім жа часам нібы адабраў ад яе і ейных клопатаў, нянек таксама і сыноў, рыхтуючы іх да вайсковай справы і палітыкі. Яна, якая старалася ісці з ім поруч, зараз адстала, замаркоцілася, і, падняўшы на ногі васьмярых дзяцей, страціла сваю маладую, лёгкую сілу, якую ён некалі так любіў.

Аднак і ў ім тае сілы рабілася ўсё меней. Яна, гледзячы на яго змучаны твар, пагладзіла рэдкія валасы над ілбом, уздыхнула і, пацалаваўшы яго ўжо спакойным, мацярынскім пацалункам, пайшла да сябе, у сваю напаленую ложніцу, дзе на сценах залаціліся абразы з лікамі мноства святых, якім яна малілася ўсім адразу – і за ўсіх. А Альгерд, застаўшыся адзін, падышоў да акна – яно таксама было шкляное, бо майстры з недалёкай адсюль гуты перанялі візантыйскае ўмельства і ўжо варылі для замка хаця і не надта тонкае, але празрыстае, толькі з лёгкімі драбінкамі пяску, шкло, і паглядзеў на наваколле.

Зорная ноч плыла над Віцьбескам, глуха шумелі сосны ўнізе, ля самай ракі, цяпер схаванай пад ільдом, цёмнай разлогінай бачылася рэчышча ручая Дунай, які не замярзаў нават у самыя лютыя маразы. Крыжакі звычайна прыходзяць зімой, па рэках – можа, недзе зараз ваўкамі крадуцца яны, набліжаючыся да горада? І таму падаслалі забойцу, каб лягчэй было расправіцца з ім, які столькі гадоў сцяной стаяў супраць іхняе чорнае навалы разам з іншымі братамі. Гэта ўжо трэці раз спрабуюць яго зжыць са свету. Першы раз у Крэве, калі падчас піру падалі яму брэцьніцу, дзе вострае ягонае вока заўважыла белую дылінку. Ён не стаў піць, а ўзяў са стала кавалак зайчаціны і, паліўшы пітвом, кінуў сабаку. Страшны віскат, з якім той пасля круціўся вакол сябе, ажно пакуль не выцягнуўся, спруцянеўшы на вачах, і дасюль стаіць у вушах. Другі раз у паходзе, калі, адстаўшы ад атрада бацькі, шукаў ён брод і заначаваў у полі. Тады, якраз як з шурынам, Давыдам, прыйшоў уначы адзін з атрадоўцаў, падкуплены немцамі, і спрабаваў зарэзаць яго кінжалам. Але Давыда ўдалося забіць, можа, таму, што надта гараваў той пасля смерці Бірута і сыноў, а яго, Альгерда,выратаваў Нянай – кумільгом кінуўся ён пад ногі наёмніку, і той пакаціўся, напароўшыся на ўласны кінжал і паспеўшы перад смерцю пакаяцца ў віне.

Хто ж так парупіўся пра яго на гэты раз? Зноў немцы? Маскоўскі Іван – Каліта, якому не дае спакою ягонае сяброўства з цвярскім Міхаілам? А можа, можа, хто з братоў? Але хто? Найбольш выгадная ягоная смерць была б зараз тром – Манівіду, Кейстуту і Яўнуту. Усе яны імкнуцца да вялікакняжацкага стальца, усе могуць трымаць краіну. Але Манівід ніколі не рызыкне страціць тое, што мае зараз, – свае кернаўскія і слонімскія землі, на сталец можа ён спадзявацца толькі пры дапамозе Кейстута і яго, Альгерда. Кейстут? Ён узгадаў высокую, як у волата, постаць брата. Не, Кейстут не быў драпежнікам–зверам, ён, сын Віды, заўсёды ўражваў сваім высакародствам і адкрытасцю. Безагляднa закахаўся ў вайдэлотку, а цяпер, калі няшчасці за няшчасцем сыплюцца на яго, – не скардзіцца, грэх перад багіняй аплачвае сам. Яўнут? Можа быць Але не сам, не – гэты баязлівец ніколі не возьмецца за такую справу. Хутчэй за ўсё, гэтак загадала Еўна. Без памяці любіць яна Яўнута, ды і доўгія гады ўладарства не прайшлі дарма: не хоча яна пакідаць Вільню і рабіцца дробнай кернаўскай альбо жамойцкай княгіняй пры сыне і нявестцы.

Магутныя дубовыя падваліны, па якіх амаль нячутна хадзіў князь, злёгку патрэсквалі, нібы адчувалі цяжар рашэння, што ляжаў на плячах Альгерда і які ён адчуваў зараз як ніколі востра...

# Знікнуць пчолы — загінуць людзі

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5, 12)*

— Я пачаў доследы: рэакцыя маятніка пацвердзіла праўдзівасць сцвярджэння. Падумалася, што я мог стаць ахвярай самаўнушэння. Таму ўзяў ваду, якую раздзяліў на дзве часткі, і адну паставіў у вуллевы магазін на дзве гадзіны, каб ваду "зарадзілі пчолы". Абедзве часткі вады — абпрамененую і простую даў на пробу сямі біялакатаршчыкам (што шукаюць ваду пры дапамозе рамкі), якія, натуральна, не ведалі сутнасць пытання. Усе яны адзначалі, што вада з вулля выпраменьвае нешта. Пачаў ужываць абпрамененую пчоламі ваду і прапанаваў гэта ж трыццаці хворым пчалярам.

Цукар у крыві 67-гадовай жонкі аднаго пчаляра, хворай дыябетам, пры ўжыванні "абпрамененай" вады праз паўгода ўпаў з 32 да 7,1 адзінак пры пастаянным урачэбным кантролі. Яе муж на працягу года не мог пазбавіцца ад галаўнога болю і болю ў суставах, але з дапамогай "спецыяльнай" вады за адзін месяц пазбавіўся ад гэтых боляў.

Энергію выпраменьваюць і старыя соты. Гэта можа праверыць кожны, хто пры галаўным болі або болі ў пазваночніку прыкладзе кавалак сотаў да хворага месца. Галаўны боль праходзіць праз 15 хвілін, калі толькі ён не мае арганічнай прычыны.

Устаноўлена, што біяэнергетыка пчаліная сям'і аказвае пэўны ўплыў на навакольнае асяроддзе. Выпраменьванне сям'і пчол моцна ўздзейнічае на прасцейшыя арганізмы і некаторыя віды мікробаў. Яе біяполе прыгнятае жыццяздольнасць дражджэй, рост некаторых сапрафітных бактэрый і грыбоў.

Сёння мы маем усе падставы меркаваць, што пчаліная сям'я не толькі з'яўляецца паўнапраўным прадуцэнтам і ўдзельнікам абмену псіхічнай энергіяй, але яна з'яўляецца прадуцэнтам station... станоўчай, стваральнай псіхічнай энергіі. І праз гэта пчала мае асобае апекаванне Бога, і праз гэта яна прымае грахі чалавечыя на сябе, перапрацоўваючы разбуральныя энергетычныя выкіды гома сапіенсаў.

Пчала выжыла ў некалькіх планетарных катастрофах, выжыла, каб выхаваць — так як яна выхоўвае сваіх лічынак — новую чалавечую цывілізацыю. І хацелася б закончыць на аптымістычнай ноце. Ды паліць, мучыць адно з апошніх прадказанняў славутай балгарскай яснабачыцы Вангі: пчолы могуць знікнуць з твару нашай планеты.

Знікнуць пчолы — загінуць людзі. Людзі сёння робяць вельмі шмат для таго, каб пчолы зніклі. Дапусціць гэтага нельга.

**Павел ВЕРАБ'ЁЎ**

# СКРУХА

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

украінцаў, пазбаўляючы іх найперш роднай мовы. Губернатар паняволенага краю Мураўёў, як і Пілсудскі, дарэчы, выразна ўяўляў сабе гэта: "То, что не доделал здесь русский штык, доделает русская школа". Вось таму мы, тутэйшыя, і ўзгадаваны ў польскай культуры, а іншыя – у рускай. Таму палякі і ўпусцілі шанц дамовіцца з Савецкай Расіяй аб супольнай абароне перад пагрозай фашызму. А Гітлер тым часам узяў індульгенцыю на адпушчэнне грахоў у Сталіна.

На стале ў цёмных бутэльках стаяла чырвонае віно, побач – невялікія празрыстыя шклянкі з крышталю. Стаяла таксама кава ў кафейніку і белыя кубкі на сподачках. На талерках ляжаў парэзаны сыр і асобна – пячэнне, бісквіты.

Раман падышоў да стала, наліў сабе ў шклянку віна і тым самым як бы падаў прыклад іншым:

—За правы і свабоднае развіццё для кожнага народа! Няхай згінуць каланісты і дыктатары, не пра нас будзь сказана!

Костусь пачуваў сябе ніякавата ад бунтарскага імпэту Рамана, але палічыў за лепшае паквітацца з ім жартам. Ён, праўда, перш звярнуўся да мотальца Пятра:

—Гаспадар Пятро, як гэта ў вас, мужыкоў гаворацъ? Госць... А-а, вось: госць – не костка, за вароты не выкінеш!

Раман кінуў яму з іранічнай усмешкай:

—Дзякуй!

—Аднак, – сказаў ён, – нам добра было б паслухаць, што носіць у думках гаспадар Пятро. Моталь больш за Моладава і Парэчча, а дзе больш людзей, там, пэўна, і розуму болей. Так ці не?

— А я вем? – усміхнуўся ў вусы мондры моталец. – Я мог бы ў Бога спытаць – дык хадзіць далёка, але ж.

Чырвоныя промні сонца, прабіваючыся скрозь вершаліны дрэў у садзе, падалі сюды і асвятлялі сваім неспакойным святлом твары дыскутантаў. Пятро Рамановіч ацаніў пытанне, якое, на першы погляд, было вельмі простае, а на самай справе ўяўляла сабой загадку або задачку на кемлівасць. Паны з цікаўнасцю чакалі ад яго адказу. Ї, усцешаны іх увагай, Пятро паспрабаваў давесці ім свае думкі.

—За два тыдні, як пачалася вайна, насельніцтва ў нас прырасло. За кошт польскіх уцекачоў, найперш яўрэяў. Ва ўправе зарэгістравана ўжо каля паўтары тысячы бежанцаў. От толькі наконт розуму ў грамадзе – няма на яго попыту. Дзіва што, светам правяць разлік і грубая сіла. Я думаў пра гэта, асабліва пасля гутаркі з купцом Мэндалем, уцекачом з-пад Хелма, – і Пятро ўсміхнуўся нейкім сваім успамінам, – гутарка была, так бы мовіць, без клею, за накрытым сталом. Мендаль, як, зрэшты, і пан Костусь, чытаў "Майн кампф", і з ім цікава было абмеркаваць прэтэнзіі Гітлера. Яны вам добра вядомы: яўрэі ў свеце прыбіраюць да рук ключавыя пасады, яны прынеслі ў грамадства аблудлівы камуністычны рэжым...

—Пытанне няпростае, – зазначыў у роздуме Раман Скірмунд. – З гэтым народам, канешне, могуць быць праблемы скрозь, але цікава, што на гэты конт мусіў табе сказаць сам купец Мэндаль?

—Ён усё разумее і таму пакутуе.

У гэты момант Генрык Скірмунд устаў і ціха выйшаў з пакоя. Калі дзверы за ім зачыніліся, пан Костусь пахітаў галавой:

— Перажывае. Хвалюецца, небарака. Вайна моцна ўдарыла па ягоных творчых планах. У Варшаве ж мелі намер ставіць оперу па напісанай ім партытуры, і раптам усё абрушылася. Значыць, не лёс. – Ён уздыхнуў. – Дык вось, паслухайце, што Вільгельм Мар пісаў у 1879 годзе: "Я глыбока пераканaны, што прыход яўрэйскага імперыялізму пытанне ўсяго толькі часу"

— Шаноўныя панове, даруйце, але мяне непакоіць іншае, – шчыра прызнаўся Рамановіч. – У мяне з'явілася прадчуванне Як бы вам давесці? Нібы за мной сочыць нейкае чужое, варожае вока. Не дзівіцеся Пасля гаманы з Мэндалем і іншымі мотальскімі яўрэямі пра вайну – кашмары ў сне проста не даюць спакою: то дрэва валіцца на мяне, то нейкі д'ябал, падобны на Сталіна, навязваецца спаліць жывым. Не тут бы мовіць пра гэта. Адсюль, аднак, пытанне бліжэйшых дзён. Польшча не ўтрымаецца, гэта ўжо зразумела. Немец прыйдзе сюды. Аднак што гэта ў Гітлера і Сталіна за дружба, калі адзін дазваляе другому падцягваць танкі да сваёй мяжы?

Вечаровая смуга ўжо ўбіралася ў сілу, але пан Костусь трываў і не клікаў прыслугу, каб запаліла свечкі. Ацiхлы і прытоены ў суцемках белы палац зноў поўніла срэбная музыка, яна жвірчэла і пералівалася на сярэдкіх актавах ды снавалася ў элегічны твор.

—Як дыпламат, я ведаю, што ў палітыцы логіку цяжка шукаць. Тым не менш яе пастаянна шукаюць. Таму ўвесь свет цяпер збіты з панталыку пактам Молатава – Рыбентропа, заключаным тры тыдні таму. Я ведаю і тое, што пры заключэнні падобных пактаў нярэдка агаворваюцца асобныя ўмовы бакоў. Якія яны? Уявіце сабе шахматную дошку, за якую селі Сталін і Гітлер. У іншых краінах сядзяць назіральнікі Гітлер робіць на Польшчы першыя хады. Што далей будзе?..

У бібліятэчны пакой, дзе яны сядзелі за кавай, асцярожна увайшла танклявая, з адкрытым энергічным тварам дзяўчына.

—Пане Канстанты, – звярнулася яна, – калі хочаце, я запалю вам настольную лямпу. А можа – камін?

—Дзякуй, не варта. Мы пяройдзем у сталовую.

Гамонячы, усталі з месцаў, і Пятро Рамановіч яшчэ раз кінуў вокам па пакоі, дзе неадночы бываў. У кутку стаяў такі ж, як у калідоры, куфар, выраблены ў Італіі. У ім захоўваліся розныя гістарычныя, пераважна родавыя дакументы, якія аднойчы паны Генрык і Костусь паказвалі яму. Лініі розных прадметаў і карцін, якіх шмат вісела па сценах, скрадваліся паўзмрокам. Блізка кніжнай паліцы, на століку ляжала бясцэнным скарбам "настольная кніжка" Элізы Ажэшкі. Гэта быў альбом з вершамі, цытатамі з розных крыніц, афарызмамі яе ўласнымі, выслоўямі іншых асоб, якія яна ўлюбёна ўпісала сюды. Вокладка альбома вабіла вока зялёнай скурай з пазалотай. Пад вокладкай – яе ўласнаручны надпіс. Гэту кнігу найвыдатная польская пісьменніца завяшчала Канстанціну Скірмунту незадоўга да сваёй смерці. Яна неаднойчы бывала ў гэтым палацы і ў гэтай бібліятэцы. Зрэшты, не толькі яна. Яшчэ за маладымі гадамі братоў Канстанціна і Генрыка ў белых сценах палаца гасцяваў іншы слынны дзеяч паняволенага краю – Напалеон Орда, кампазітар, спецыяліст адменных графічных малюнкаў...

Светлы сум, непакой і горыч за нешта супольнае, блізкае, што было і не атрымала далейшага свайго развіцця або зусім страчана, напоўнілі сэрца Пятра.

Яны выйшлі ў сені, калі музычны матыў, што мякка сачыўся з кабінета Генрыка, зыначыўся,ператварыўся ў наплыў ціхай журбы і пяшчоты, стаў мілажальным ды загучаў адкрыта, моцна і чыста. Генрык выконваў паланез Агінскага.

Пятроў ехаў з палаца сам не свой – зачараваны, захоплены ўзвышальным светам людскасці ды мастацтва, мастацтва і людскасці. Ён адмовіўся вячэраць разам з панамі, бо час быў позні і тады выпадала б ехаць па дарозе ўпоцемкі. Скірмунты правялі яго на ганак з калонамі – пан Канстанцін браў удзел у праводзінах, відаць, дзеля прагулкі. Развіталіся. Пры гэтым Раман Скірмунт моцна сціснуў Пятрову руку і, упіраючыся скрушлівым позіркам у прадонне ягоных вачэй, мовіў:

—Невядома, калі Бог дасць яшчэ сустрэцца, таму я скажу, уважаючы на тваю беларускасць. Няхай твой сын акажацца жывым і здаровым! Ї няхай твае дзеці і ўнукі не пройдуць абыякавымі па Бацькаўшчыне. Гонар і дух продкаў абавязваюць з'ядноўваць, аднавіць, адрадзіць літвінскі край беларусаў. Павек вякоў!

Дыпламат Канстанцін, седзячы ў калясцы, слухаў зычэнне стрыечнага брата з паважнай усмешкай, трохі паблажлівай і вясёлай.

—Добрым часам!

—Давідзэння!..

ГАСЦЁЎНЯ

# Зорка спагады

***Асоба барда Алеся Камоцкага, яго творы добра знаёмыя аматарам беларускай аўтарскай песні. Больш за пятнаццаць гадоў яго лірычны, мяккі голас гучыць з канцэртных пляцовак па ўсёй Беларусі, з дынамікаў радыёпрыёмнікаў, магнітафонаў, прайгравальнікаў, дыскаў. Музычная крытыка даўно прызнала А. Камоцкага, разам з С. Сокалавым-Воюшам, В. Шалкевічам, В. Цярэшчанкай, за класіка беларускай бардаўскай песні.***

***Яшчэ адным пацвярджэннем гэтага стаў не так даўно выдадзены дыск "Псальмы" на біблейскія вершы Рыгора Барадуліна. З гэтымі і іншымі сваімі творамі А. Камоцкі і Р. Барадулін паспяхова выступілі ў тэатры "Зьніч", што месціцца ў касцёле Сымона і Алены.***

***Пра тое, як склаўся гэты творчы альянс мы просім расказаць нашага сённяшняга госця, барда Алеся Камоцкага.***



— Наш з Рыгорам Іванавічам творчы саюз узнік, калі можна так сказаць, і выпадкова, і невыпадкова.

Па-першае, зблізіла тое, што мы, кожны ў свой час, "завязалі" з алкаголем. Абмеркаванне агульнай праблемы зрабіла мяне дужэйшым у пераадоленні гэтага зла.

Але па-сапраўднаму аб'яднала тое, што я здаўна марыў пісаць рамансы, але сам не мог стварыць такіх вершаў, якія б адпавядалі патрабаванням гэтага жанру. У размовах з Барадуліным высветлілася, што паэт не супраць, каб я пашукаў музычнага ўвасаблення ягоным вершам.

Мы паспрабавалі і справа наладзілася — цяпер у маім рэпертуары каля трыццаці рамансаў на барадулінаўскія радкі.

Потым я даведаўся, што ў Барадуліна ёсць паэтычныя пераўвасабленні псальмоў, і за дзве ночы напісаў амаль тры дзесяткі іх музычных версій. А пасля "адсеву" ў маім рэпертуары застаўся дваццаць адзін твор, якія выйшлі асобным кампакт-дыскам "Псальмы".

Пасля "Псальмоў" нас зацікавілі балады на біблейскія тэмы. Бо Біблія — гэта кніга, якая будзе натхняць заўсёды, і да яе будуць звяртацца ўвесь час і мастакі, і музыкі, і літаратары. Нашы ж біблейскія балады — абсалютна агульнахрысціянскія творы і не прэтэндуюць ні на якую кананізацыю. Проста, гэта наш погляд на вечныя тэмы, наша бачанне духоўных скарбаў чалавецтва.

Спадзяёмся, што хутка кампакт-дыск з гэтымі баладамі і псальмамі выйдзе ў Беларусі.

**— Алесь, чым прыцягвае і захапляе цябе асоба Барадуліна?**

— У нас шмат агульнага ў характарах і ў стаўленні да жыцця. Але галоўнае — Барадулін, як ніхто іншы, валодае Словам. Уласна кажучы, у Барадуліна ёсць нейкая асаблівая мова, са сваімі чарамі і магіяй. Ён свядома ставіцца да слова як да магіі і, бывае, мы разам гуляем у магічныя словы: у вершах Рыгора Іванавіча мяняем колькі косак ці літар, што дае новыя сэнсы і адценні творам паэта.

Гэта вельмі важна, бо слоў апошнімі часамі пішацца і гаворыцца шмат, а сэнс іх губляецца: людзі гавораць нарыхтаванымі фразамі, сказамі, абзацамі, але яны не важаць нічога.

А Барадуліну ўласціва вяртанне сэнсу словам, вяртанне імі глыбіні і значнасці. Я вельмі рады, што сустрэўся з такім чалавекам, які ўмее гэта рабіць прыгожа і натхнёна.

**— Думаю, чытачам будзе цікава даведацца пра тое, як вам працавалася над такой складанай тэмай, як псальмы альбо біблейскія балады...**

— Наколькі мне вядома, падчас працы над сваімі версіямі псальмоў Барадулін браў некаторыя ўрыўкі і фразы з тэксту і ў выглядзе рэфлексій ствараў вершы на гэтыя тэмы. Я ж пад натхненнем пісаў мелодыі да гэтага цыкла. Але калі нас пытаюць, каму прыйшла ідэя напісаць гэтыя "Псальмы" мы заўсёды адказваем: "Ясная ж рэч — Давыдаў!"

З "Псальмамі" мы выступалі перад людзьмі, якія належаць да розных канфесій, і яны ўсе разам успрымалі іх вельмі прыхільна: там ёсць над чым падумаць, што асэнсаваць. Як для мяне, "Псальмы" — адзін з узораў сур'ёзнай, глыбокай паэзіі. За два гады выканання "Псальмоў" я, можа, паўтысячы разоў іх праспяваў і ўвесь гэты час знаходзіў усё новыя адценні вечных думак і сэнсаў.

**— Ад чаго адштурхоўваецца ў сваёй творчасці бард Алесь Камоцкі — ад эмоцый ці ад розуму?**

— Пажадана, каб ад эмоцый! А куды ад іх дзецца? Але са сталеннем пачынаеш адштурхоўвацца ад розуму, і эмоцыі робяцца больш асэнсаванымі. І з гэтай нагоды ўжо ёсць некаторае шкадаванне.

Раней пры стварэнні песень і вершаў усё атрымлівалася само сабой, а зараз адчуваю, што эмоцыі робяцца больш "разумнымі", "кіраванымі". Гэта не вельмі добра, але ад гэтага з узростам нікуды не дзецца. Чым далей творца можа захаваць у сабе вольныя эмоцыі, нязмушанасць пачуццяў — захаваць у сабе, напэўна, дзіцячы пагляд на рэчы, тым больш яго творчасць робіцца насычанай эмацыянальна, жывой. Вось Рыгор Барадулін як паэт "захаваў" у сабе дзіцячае светаадчуванне, і таму яго паэзія выглядае такой чыстай і пачуццёвай.

**— Слабае месца многіх бардаў — музычная і выканаўчая падрыхтоўка. Пра цябе такога не скажаш, але перспектывы росту таксама ёсць. Ці працуеш над сваім удасканаленнем?**

— Калі па шчырасці, то глыбока ў маёй душы сядзіць шкадаванне, што я не музыкант. Бог даў, што мелодыі атрымліваюцца ў мяне неблагія, але мне не хапае дастаткова вольнага валодання гітарай.

Таму я аднойчы папрасіў дапамагчы на канцэрце нашага знанага гітарыста, саліста аркестра М. Фінберга Уладзіміра Ткачэнку. У нас гэта атрымалася, і цяпер Уладзімір грае і свае, і мае гітарныя партыі. Уладзімір Ткачэнка — музыкант вельмі сур'ёзны і гэта тое, чаго мне не хапае: пра мае экзерсісы можна казаць — песні Камоцкага, а вось калі мы выступаем з У. Ткачэнкам, то можна казаць — музычныя творы.

Але шкадаванне застанецца. Асабліва пра гады маладосці, якія "прагуляў" замест таго, каб вывучаць музыку, павышаць свой выканаўчы ўзровень. Таму я скіраваны ў сваім жыцці, заўсёды ўсё рабіць самому: сам мыю сабе шкарпэткі, сам запісваю песні, малюю вокладкі дыскаў. Проста я прыйшоў да высновы, што ў гэтым свеце, дзе ўсё так нестабільна і падманліва, сабе яшчэ можна верыць да канца. Як і самым блізкім сваім сябрам...

**Гутарыў А. МІТРАНОВІЧ**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## Запрашаем

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры працуюць выставы: "Мой боль вырастае да зор..." — тэма Чарнобыля ў літаратуры і мастацтве і выстава "Палескія цуды" — творы мастака-кераміста Мікалая Пушкара.**

## Беларускі калегіум запрашае

**8 траўня** — Дзмітрый Серабракоў "Філасофія асветы ў Полацкай акадэміі і Віленскім універсітэце"

**15 траўня** — Юрась Вашкевіч "Беларуска-польскія культурныя стасункі (1945—1991 гг.)"

**22 траўня** — Эльжбета Чыквін (Польшча) "Беларуская меншасць у Польшчы як стыгматызаваная група"

**29 траўня** — Міраслаў Хаецкі (Польшча) "Арганізацыя незалежных выданняў у Польшчы на мяжы 70—80-х гг."

Лекцыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16).

**Пачатак у 18.30.**

Мікола ШАБОВІЧ

## Прысвячэнні

*Алесю Камароўскаму*

*Пенальці б'еш заўжды без промаху,*
*Бо мяч даўно заваражыў.*
*На многа кніг хапае пораху,*
*Абы Пегас не затужыў!*

*Барысу Пятровічу*

*Відаць, ні кроплі не зманю:*
*Які ты быў — такі застаўся,*
*Хоць дзёрзка з "ЛіМа", як з агню,*
*У само "Полымя" падаўся.*

*Але Канапельцы*

*Я адкрыццём сягоння ўсцешана,*
*З ім хочацца тварыць і жыць:*
*Хай адцвіла мая алешына,*
*Але — "Крыніца" ўдаль бяжыць!*

*Віктару Шніпу*

*Нібыта з кветкі чмель нектар,*
*Нясеш Чырвоны ты ліхтар,*
*Нясеш, нібы кадзіла поп,*
*На страх і азій, і еўроп.*

Анатоль ЗЭКАЎ

## Парадыст — парадысту

Як Зэкаў, я не напішу,
Таму пішу
як Ермалаеў.
**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**

*Няўцям мне, дзядзька Ермалаеў,*
*Хоць гэта, зрэшты, не бяда,*
*Ці пахваліў ты, ці палаяў,*
*Адно ўжо добра, што згадаў.*
*Такая ў нас з табой літпіша:*
*Паэтаў пляжым ад душы.*
*Калі ж, як Зэкаў, не напішаш —*
*Тады на Зэкава пішы.*
*Скубі, як іншы, гэтаксама —*
*З мяне карона не зляціць.*
*Гатоў табе я за рэкламу*
*Звыш ганарара прыплаціць*
*І нават збегаю у краму,*
*Каб для натхнення грам наліць.*



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

Рэдка стрэнеш цяпер цяжарную кабету. Будучыя пакаленні не даруюць нам гэта.

●

У магазіне, дзе прадаюць старое адзенне, пенсіянеры капаюцца ў шмацці "з Еўропы". І тут пастаянна растуць цэны. "Долар дарагэ", — апраўдваюцца бізнесмены. Нехта з нямоглых і голых і тут выціскае свой долар.

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| АДДЗЕЛЫ: публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 3.5.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2483

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12